Жыве Беларусь!



# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamajca, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 578 Сакавік 2011 г.
Год выданьня 61

# 93-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі

25 Сакавіка

Дзень Волі

dzedzich.org

## 25-ты Сакавік

**Ён прыйдзе, гэты дзень!**
**Ён не прысьці не можа!**
**Ён прыйдзе –**
**й загудзе вясновы буралом,**
**пакрышыць, разьмяце,**
**раскідае, зьнічтожыць**
**усё, што нам шляхі да хаты замяло!**
**Ці чуеце?**
**Аб ім**
**шасьціць быльнёг аселіц,**
**пяюць вятры ў лазе**
**і звоніць крыгаў лёд.**
**Ахвяраю крыві,**
**а Слова стане Целам,**
**і ўжо ніколі больш не ўстане**
**Чорны Год.**
**Няхай бярэмя він**
**прыгнула нас, і крылы апалі,**
**й хлеб чужы нясмачны і важкі,**
**няхай нас апавіў**
**тугой агорклы вырай, - трывайма!**
**Ён ідзе - Вялікі Сакавік!**
**Ідзе…**
**й пад ногі рунь**
**яму кладзецца, таюць**
**сьнягі, на паплавах зяленіца**
**трава…**
**Радзіма!**
**Беларусь!**
**Каханая, сьвятая!**
**Багаславі нас жыць**
**і веру захваць!**

*Натальля Арсеньева*

**25 сакавіка 1918 году** абраная Першым Усебеларускім Кангрэсам Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла III Устаўную грамату, дзе абвяшчалася:

*“Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і нізалежны край.*

*Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвешчаецца Нізалежнай і Вольнай Дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобі свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязах Беларусі”.*

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі Прэзыдыюм*

## З ДНЁМ ВОЛІ!



## Дарагія суродзічы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю вас з нашым слаўным Днём Волі – 93-мі ўгодкамі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай дзяржавы 25 Сакавіка 1918 году.

Наш край аднавіў сваю незалежнасьць у 1991 годзе, калі на мапе сьвету зьявілася Рэспубліка Беларусь. Аднак, гэта сталася магчымым толькі таму, што нашыя продкі здолелі ў сакавіку 1918 году гучна заявіць сьвету, што “Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаенцца незалежнай і вольнай дзяржавай”. Дзень 25 Сакавіка застанецца назаўсёды нашым найвялікшым нацыянальным сьвятам, сьвятам нашай ідэнтычнасьці, нашай гістарычнай памяці, нашай дзяржаўнасьці.

Гэтымі днямі ўсе мы яшчэ перажываем падзеі, зьвязаныя з прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі: фальшаваньне вынікаў галасаваньня, зьбіцьцё мірных дэманстрантаў, зьняволеньне соцень людзей, у тым ліку апазыцыйных кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта. Дык хачу нагадаць вам словы вядомага беларускага сьвятара а. Аляксандра Надсана: “На долю беларусаў выпала шмат цяжкіх выпрабаваньняў. Колькі разоў здавалася б яны стаялі на краі згубы. Тое, што ня гледзячы на ўсё яны выжылі, сьведчыць аб вялікай духовай сіле нашага народу”.

Сёньня гэтая духовая сіла ўвасабляецца ў тых дзяўчатах і хлапцох, жанчынах і мужчынах, што дзесяткамі тысяч выйшлі на Плошчу 19 сьнежня 2010 году, і ў тых людзях, якія актыўна ўключыліся ў кампанію салідарнасьці з вязьнямі рэжыму і якія выступаюць з патрабаваньнем новых – сумленных выбараў. Яны не дазволяць, каб Беларусь, незалежная Беларуская дзяржава, загінула. Спробы дыктатара запалохаць людзей прымяненьнем супраць іх збройнай сілы скончацца ягонай паразаю.

Краіна наша выстаіць і зойме сваё годнае месца між дзяржаваў сьвету. Я моцна ў гэта веру й заклікаю кожнага з вас далучыцца да тых новых сілаў у нашым народзе, якія супрацьстаяць варожым нам ідэалёгіям і менталітэту.

Разам мы пераможам усе цяжкасьці на шляху да волі і дабрабыту!

*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*
*Сакавік 2011*

## Жыве Беларусь!

# Шаноўныя чытачы!

Ад імя рэдакцыі віншуем усіх вас з нашым слаўным і гераічным Сьвятам – Вялікім Днем - 25 Сакавіка . Гэты нумар мы, найперш, прысьвячаем 93 –м угодкам абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, падаем яго ў сьвяточным каляровым выглядзе.

Сёлетняе Сакавіцкае сьвята наўпрост зьвязанае з тымі драматычнымі падзеямі, якія пачалі адбывацца ў Беларусі пасьля так званых прэзыдэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2010. Рэжым Лукашэнкі працягвае татальную расправу з апазыцыяй, над удзельнікамі руху пратэсту праходзяць несправядлівыя сфальсіфікаваныя суды, арыштаваныя знаходзяцца за кратамі і чакаюць такіх жа судоў, да іх прымяняюцца катаваньні. Сярод беларускай грамадзкасьці шырыцца рух салідарнасьці з вязьнямі і падтрымкі іх саміх і іхных сямей. Лепшыя сыны і дочкі Бацькаўшчыны змагаюцца за волю, дэмакратыю і сапраўдную незалежнасьць. Іх барацьба ёсьць працягам справы 25 Сакавіка. І пра гэтыя падзеі мы падаем інфармацыі ў газэце.

Навінкаю гэтага нумара з'яўляецца пададзены ў ім Інфармацыйны дадатак, дзе ёсьць практычная інфармацыя, якая, як мы спадзяемся, будзе патрэбнаю нашым чытачам, якія ладзяць новае жыццё ў Амэрыцы. Мы запрашаем усіх далучыцца да выданьня Дадатку – падаваць ў ім свае аб'явы, парады, прыватныя віншаваньні, спачуваньні, аб'явы аб працы, кватэрах, аб продажы рэчаў ці пошуках патрэбных вам паслугаў ці інфармацый. Адным словам, усё, што можа дапамагчы нам лепш прыстасавацца на новым месцы і дапамагчы адзін аднаму.

Але, найперш, са Сьвятам!

**Жыве Беларусь!**

## Паважанае спадарства!

Сёлета мы – Беларусы ў вольным сьвеце адзначаем 93-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі – Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году. Да таго ж сёлета сьвята супадае з 20 гадавінай аднаўленьня незалежнасьці Беларусі ў форме Рэспублікі Беларусь.

Адзначацца гэтыя слаўныя даты будуць па цэлым сьвеце. Беларускія патрыёты ў Беларусі будуць адзначаць іх у шмат цяжэйшых умовах, пад пануючай там анты-беларускай дыктатурай.

Апошнім часам на тэлевізійных экранах мы бачым, як увесь арабскі сьвет стараецца пазбыцца сваіх дыктатараў пасьля іхных 30-40 – гадовых жорсткіх і карумпаваных рэжымаў.

Няўжо нам – Беларусам давядзецца цярпець так доўга, каб дачакацца таго часу, калі ў Беларусі запануе свабода і дабрабыт? Шмат будзе залежаць ад нашай дзейнасьці за мяжою – у Паўночнай Амэрыцы, Эўропе, Аўстраліі, каб наш уплыў на дэмакратычныя ўрады сьвету і міжнародныя ўстановы завяршыўся посьпехам.

Няхай будзе нашым лёзунгам: "Змаганьнем, працай мы адродзім жыцьцё Рэспублікі сваёй".

**Жыве Беларусь!**

*Ад Галоўнай управы БАЗА*
*Вячка Станкевіч, старшыня*

**Бруклінскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА)**

Ладзіць сьвяткаваньне

**93-х угодкаў**
абвяшчэньня незалежнасьці
Беларускай Народнай Рэспублікі

Імпрэза адбудзецца ў нядзелю 27 сакавіка 2011 году ў Грамадзкай залі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, 401 Atlantic Ave. Brooklyn, New York.

У праграме: урачыстая акадэмія, канцэрт і банкет.
Пачатак імпрэзы а 12:30 па паўдні

А 10:00 раніцы ў Катэдральным Саборы будзе Літургія і Малебен за Беларусь

Уступ на імпрэзу: дарослыя – $30, дзеці да 14 гадоў бясплатна, вучням зьніжка

Даезд трэйнамі: A, C, G – Hoyt-Schermerhorn, B, Q – Atlantic Ave, F – Bergen Str.)

*Кантактныя тэл.:*
*В. Дворнік – 1 516 359 0164*
*Т. Красоўская – 1 646 250 1784*

# Змаганьне за волю ў сучаснай Беларусі

## Міхалевіч: "Я зраблю ўсё, каб зьнік канцлягер у цэнтры Менску"


Алесь Міхалевіч

28 лютага экс-кандыдат на пасаду прэзыдэнта, абвінавачаны па справе аб падзеях 19 сьнежня, Аляксей Міхалевіч заявіў пра катаваньні ў сьледчым ізалятары КДБ, а таксама пра тое, што ён разарваў дамову аб супрацоўніцтве з КДБ, якую вымушана падпісаў перад тым як выйсьці з ізалятара на падпіску пра нявыезд.

Аляксей Міхалевіч, які тыдзень таму быў адпушчаны са сьледчага ізалятара КДБ на падпіску пра нявыезд і неразгалошваньне таямніцы сьледзтва, адну таямніцу "амэрыканкі" вырашыў зрабіць вядомай грамадзтву. "На сёньняшні дзень сьледчы ізалятар КДБ Рэспублікі Беларусь перdesignated ператвaрыўся ў канцэнтрацыйны лягер. Тое, што там адбываецца, цалкам падпадае пад міжнародную канвэнцыю ў пытаньнях катаваньняў"- заявіў сп. Міхалевіч.

Катаваньнямі Алесь Міхалевіч назваў фізычныя і маральныя зьдзекі зь вязьняў — так званыя "расьцяжкі" і выкручваньні рук у кайданках, вывад голымі на холад, доўгае стаяньне ля сьцяны амаль у шпагаце, прымусовае знаходжаньне ў памяшканьні са сьвежапафарбаванай падлогай з пахам ацэтону, абразы, пагрозы, маральны ціск.

Адразу пасьля арышту ад Міхалевіча запатрабавалі, каб ён выступіў па БТ з напісаным у КДБ тэкстам з асуджэньнем іншых кандыдатаў на прэзыдэнта. Калі ён адмовіўся, то трапіў пад зьдзекі і катаваньні, а сьледчыя дзеяньні зь яго удзелам праводзіліся без адвакатаў, з парушэньнем законаў.

"Па выніках гэтага ціску мне быў прапанаваны адзін варыянт, пры якім я магу вызваліцца і выйсьці пад падпіску пра нявыезд. Гэтым варыянтам было падпісаньне дамовы пра супрацоўніцтва з КДБ, а менавіта, што я павінен быў стаць агентам КДБ. Не пад узьдзеяньнем катаваньняў, а для таго, каб заявіць пра ўсе тыя злачынствы, якія там творацца, пра ўсе катаваньні, я пайшоў на гэты крок. Я падпісаў дакумэнт аб тым, што станаўлюся таемным супрацоўнікам КДБ. Але я хачу сказаць, што я ніколі ня быў і ня буду агентам КДБ. Прашу ўспрымаць маю сёньняшнюю заяву як публічную адмову ад супрацоўніцтва. Прашу лічыць тую паперу несапраўднай і такой, якая ня мае ніякай сілы".

Спадар Міхалевіч зазначыў, што поштай падаў заяву пра катаваньні ў КДБ, у Генэральную пракуратуру Беларусі і ўпаўнаважанаму ААН па катаваньнях.

КДБ хоча фізычна і маральна зламаць палітвязьняў, перакананы Міхалевіч, і таму КДБ адмыслова не дапускае да іх адвакатаў, каб схаваць гэтыя катаваньні.

"Я як грамадзянін павінен зрабіць усё магчымае, каб гэтыя катаваньні спыніліся і каб канцэнтрацыйны лягер у цэнтры Менску спыніў існаваньне".

Спадар Міхалевіч не выключае, што сёньняшняя заява будзе яму дорага каштаваць:

"Ужо сёньня я магу апынуцца зноў у сьледчым ізалятары. Я ўпэўнены, што мой абавязак як грамадзяніна — распавесьці пра тыя ўсе злачынствы, якія робяцца ў сьледчым ізалятары. Таму я спакойна стаўлюся да таго, што магу зноў туды трапіць, і разумею, што ўмовы будуць нашмат горшыя, разумею, што мне будуць помсьціць".

Алесь Міхалевіч распавёў, што ў камэры зь ім не было іншых палітвязьняў, але ён чуў, як катуюць у суседніх камэрах. Распавёў і пра сваё часовае знаходжаньне ў СІЗА на Валадарцы — у самай горшай камэры, дзе на 15 чалавек было 8 спальных месцаў і дзе таксама зьдзекаваліся зь вязьняў.

"Заява экс-кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі Алеся Міхалевіча аб ужываньні катаваньняў у СІЗА Камітэту дзяржбясьпекі не адпавядае рэчаіснасьці, і гэтым выказваньнях нельга верыць" - заявіў агенцтву "Інтэрфакс-Захад" начальнік Цэнтру інфармацыі і грамадзкіх сувязяў КДБ Аляксандр Антановіч. Ён не адказаў на пытаньне, ці можа А.Міхалевіч быць прыцягнуты да адказнасьці за паклёп.

*28.02.2011*

## Прысуды за Плошчу: ад трох да чатырох гадоў

У судзе Фрунзенскага раёну Менску агучылі выракі па крымінальнай справе супраць ўдзельнікаў акцыі пратэсту 19 сьнежня 2010 году.

2 сакавіка судзьдзя Таццяна Чаркас вынесла прысуд і прыгаварыла ўсіх трох падсудных па гэтай справе да зьняволеньня ў калёніі ўзмоцненага рэжыму. Аляксандар Атрошчанкаў, прэсавы сакратар Саньнікава, атрымаў 4 гады, Аляксандар Малчанаў – 3 гады, Зьміцер Новік – 3,5.

У судовым выраку судзьдзя Таццяна Чаркас фактычна паўтарыла абвінавачваньні, што гучалі ад пракурораў, адхіліўшы, хіба толькі, абвінавачваньні ва ўзброеным супраціве міліцыі і ў тым, што Малчанаў ні-быта быў п'яны. На ўсе довады адвакатаў падсудных, што ніякага складу злачынства паводле артыкулу 293 "Масавыя беспарадкі" ў дзеяньнях іх падабаронных выяўлена не было, абвінаваўчы ўхіл суду нязьменна працягваўся. Таццяна Чаркас на гэта фактычна не рэагавала.

Адвакаты і родныя ўжо назвалі прысуды гэтым удзельнікам Плошчы 2010 году вельмі жорсткімі і палітычна ангажаванымі, неапраўданымі. Абарона ў адзін голас заявіла, што зьбіраецца падаваць апэляцыі на перагляд гэтых выракаў,



Суд над Атрошчанкавым, Новікам, Малчанавым. У холе перад пачаткам суду

*02.03.2011*

## Як у СІЗА КДБ катавалі Аляксандра Атрошчанкава

Прэс-сакратара Андрэя Саннікава закоўвалі ў кайданкі, ставілі на «расцяжку», прымушалі рабіць фізічныя практыкаванні ў распранутым выглядзе.

Пра гэта жонка палітвязня Аляксандра Атрошчанкава паведаміла ў заяве генеральнаму пракурору Беларусі Рыгору Васілевічу.



## А.Міхалевіч: "Мяне ў КДБ ня будзе. Зараз я ў надзейным месцы"

Былы кандыдат у прэзыдэнты на выбарах 2010 году Алесь Міхалевіч паведаміў у сваім блогу, што знаходзіцца па-за зонай дасягальнасьці КДБ. У ім гаворыцца:

"Мяне выклікаюць для правядзення следчых дзеянняў у КДБ
Я маю абгрунтаваныя падставы меркаваць, што з будынка КДБ ужо не выйду. Таму мяне ў КДБ не будзе.Зараз я знаходжуся ў надзейным месцы, не ў зоне дасягаймасці беларускага КДБ.
Збіраюся працягваць працу над спыненнем катаванняў і вызваленнем усіх, хто незаконна ўтрымліваецца па палітматывах".

На сайце "Руху за свабоду" паведамляецца: "Як стала вядома Pyx.by, Алесь Міхалевіч здолеў пакінуць краіну".

"Усе бачаць, што гэтыя людзі гатовыя пайсці на ўсё, у іх дзеяннях няма законнасці і адкрытасці", - кажа Міхалевіч.

*Паводле Радыё Свабода*
*14.03.2011*

# Эўрапарлямэнт асудзіў катаваньні палітвязьняў у Беларусі

Эўрапарлямэнт на сэсіі ў Страсбуры прыняў рэзалюцыю, якая асуджае прымяненьне катаваньняў да затрыманых па справе 19 сьнежня 2010 году.

Рэзалюцыя асуджае непавагу беларускіх уладаў да фундамэнтальных правоў на свабоду сходаў і меркаваньняў і заклікае да неадкладнага і безумоўнага вызваленьня ўсіх затрыманых па палітычных матывах.

Дакумэнт таксама рашуча асуджае прымяненьне катаваньняў у дачыненьні да зьняволеных як форму жорсткага абыходжаньня, забароненага міжнародным заканадаўствам і абсалютна непрымальнага для эўрапейскай краіны і бліжэйшага суседу ЭЗ.

Рэзалюцыя асуджае прысуды, вынесеныя моладзевым актывістам апазыцыі за ўдзел у акцыі пратэсту 19 сьнежня, як "скандальнае і сур'ёзнае парушэньне іх палітычных і грамадзянскіх правоў і скандальнае парушэньне міжнародных канвэнцый, удзельнікам якіх зьяўляецца Беларусь".

Эўрадэпутаты таксама выступілі з асуджэньнем створанай у краіне "атмасфэры страху, рэпрэсій і пераследу грамадзянскай супольнасьці і СМІ", якая выяўляецца ў правядзеньніператрусаў у рэдакцыях і кватэрах журналістаў і грамадзкіх арганізацый, выключэньнямі з ВНУ і звальненьнямі з працы, і заклікалі ўлады стварыць умовы для свабоднага выказваньня меркаваньняў і свабоды СМІ ў Беларусі.

Рэзалюцыя таксама заклікае ўлады Беларусь забясьпечыць вяршэнства закону, міжнародных канвэнцый і нацыянальнага заканадаўства, каб гарантаваць адпаведныя ўмовы ўтрыманьня ў турмах зьняволеных і магчымасьць іх сустрэч са сваякамі, адвакатамі і мэдычным пэрсаналам. Дэпутаты таксама патрабуюць спыніць пераслед палітычных апанэнтаў, праваабаронцаў і незалежных СМІ.

У дакумэнце асуджаецца ануляваньне ліцэнзій тых юрыстаў, якія працавалі па крымінальнай справе аб масавых беспарадках у Менску, у прыватнасьці адвакатаў Алега Агеева, Паўла Сапелкі, Тацяны Агеевай, Уладзіміра Тоўсьціка і Тамары Гараевай, і ўтрымліваецца заклік да калегіі адмяніць гэтыя рашэньні.

Эўрадэпутаты таксама асудзілі рашэньне Міністэрства юстыцыі Беларусі аб выключэньні са складу Кваліфікацыйнай камісіі ў пытаньнях адвакацкай дзейнасьці Аляксандра Пыльчанкі за выказаную ім занепакоенасьць з нагоды рашэньня Міністэрства юстыцыі аб адкліканьні ліцэнзій у адвакатаў. У рэзалюцыі адзначаецца, што гэтае рашэньне неабгрунтаванае і сьведчыць аб рэальнай пагрозе незалежнасьці адвакатуры ў цэлым і кожнага адваката асобна.

Рэзалюцыя заклікае беларускія ўлады правесьці ўсебаковае і бесстароньняе расьсьледаваньне ўсіх выпадкаў катаваньняў палітычных зьняволеных і пакараць усіх датычных да гэтага асоб.

Эўрапарлямэнт таксама заклікае беларускія ўлады перагледзець закон аб масавых мерапрыемствах і прывесьці яго ў адпаведнасьць з міжнароднай канвэнцыяй аб грамадзянскіх і палітычных правах.

У рэзалюцыі таксама ўтрымліваецца заклік да Эўрапейскай Рады, Эўракамісіі, высокаму прадстаўніку ЭЗ у пытаньнях зьнешняй палітыкі і бясьпекі, да ўсіх партнэраў Эўразьвязу пашырыць абмежавальныя захады, якія будуць распаўсюджвацца на пракурораў, судзьдзяў і супрацоўнікаў КДБ, якія ўцягнутыя ў рэпрэсіі і маюць дачыненьне да парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі. Акрамя таго, Эўрапарлямэнт лічыць, што Рада ЭЗ павінна разгледзець магчымасьць увядзеньня кропкавых эканамічных санкцый адносна дзяржаўных беларускіх прадпрыемстваў.

Эўрадэпутаты таксама нагадваюць, што пакуль беларускія ўлады ня зробяць крокаў да паляпшэньня сытуацыі з правамі чалавека ў краіне, працэс збліжэньня ЭЗ і Беларусі будзе прыпынены, у тым ліку і ў рамках праграмы "Ўсходняе партнэрства". У той жа час, мяркуюць яны, ЭЗ павінен узмацніць падтрымку беларускай грамадзянскай супольнасьці, у тым ліку праз спрашчэньне візавага рэжыму.

*11.03.2011*

## Лукашэнка даў інтэрвію амэрыканскай газэце

Аляксандр Лукашэнка 28 лютага даў інтэрвію газэце "Вашынгтон пост"

"Інтэрвію працягвалася каля 3 гадзін. Вось некаторыя фрагмэнты, якія даюць ўяўленьне пра характар размовы Лукашэнкі з журналісткаю Лэлі Ўэймэт.

Напрыклад, гаворачы пра выказваньні кандыдатаў у прэзыдэнты падчас выбарчай кампаніі, Лукашэнка заявіў: «Пытаньне ў тым, што кандыдаты казалі. Яны казалі, што Лукашэнку трэба павесіць».

Журналістка запыталася пра пару зьняволеных, у якіх ёсьць трохгадовы сын. Лукашэнка адказаў, што ня ведае такіх выпадкаў, і перапытаў у журналісткі, пра каго ідзе размова. Уэймэт адказала, што пра Халіп і Саньнікава. Лукашэнка на гэта паабяцаў, што праверыць гэтую інфармацыю.

Калі размова заходзіла пра адмовы ў рэгістрацыі грамадзскіх аб'яднаньняў, Лукашэнка заявіў, што ніякіх праблемаў тут няма. «Гэта няпраўда. Як наконт Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі?» — запыталася Уэймэт. «У Беларусі Хрысьціянская дэмакратыя, можа, ніколі ня будзе зарэгістраваная. Яны ўдзельнічалі ў бунце. Яны не хрысьціянскія дэмакраты, яны бандыты», — адказаў Лукашэнка.

На пытаньне: "Чаму вы выгналі амэрыканскага амбасадара ў 2008 годзе?» Лукашэнка адказаў: «Навошта нам патрэбны амбасадар, які арганізуе дзеяньні пятай калёны?»

*28.02.2011*

## ЗША: Чэмпіянат свету па хакеі ў Беларусі трэба адмяніць

У Беларусі забяруць права на арганізацыю ЧС ў 2014 годзе, калі ўлады не вызваляць усіх палітвязняў. У Сенат ЗША 9 сакавіка быў унесены праект рэзалюцыі Кангрэса па Беларусі ў сувязі з пераследам апазіцыі і дэмакратычных актывістаў. Адзін з пунктаў рэзалюцыі заклікае МХФ забраць у Беларусі права на арганізацыю чэмпіянату свету па хакеі ў 2014 годзе.

Рэзалюцыя настойліва заклікае прэзідэнта ЗША і дзяржсакратара ЗША каардынаваць палітыку ЗША ў дачыненні да Беларусі з палітыкай Еўразвяза; узнавіць тэхнічную і матэрыяльную падтрымку апазіцыі і грамадзянскай супольнасці ў Беларусі; пашырыць амерыканскі спіс службовых асоб Беларусі, адказных за пераслед апанэнтаў рэжыму пасля 19 снежня 2010 года, і накласці мэтанакіраваныя санкцыі на гэтых асоб і іхнія сем'і; вызначыць далейшыя прадпрыемствы, якія ўзбагачаюць рэжым Аляксандра Лукашэнкі, забараніць гандаль з імі і замарозіць іхнія активы.

Рэзалюцыя настойліва заклікае Еўразвяз далучыцца да амерыканскіх санкцый супраць «Белнафтахіма»; спыніць усе праекты з беларускімі ўладамі і выключыць службовых асоб Беларусі з удзелу ў сустрэчах Усходняга партнёрства; пашырыць еўрапейскі спіс службовых асоб Беларусі, адказных за пераслед апанентаў рэжыму пасля 19 снежня 2010 г., і накласці мэтанакіраваныя санкцыі на гэтых асоб і іхніх сваякоў.

Рэзалюцыя таксама заклікае Міжнародную хакейную федэрацыю забраць у Беларусі права на арганізацыю чэмпіянату свету па хакеі ў 2014 годзе, калі беларускія ўлады не вызваляць усіх палітвязняў.




## Алесь Міхалевіч у Чэхіі

Экс-кандыдат у прэзыдэнты Алесь Міхалевіч атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі.

"Для мяне існуе адзіная прычына, якая апраўдае такія мае крокі, - гэта рэальная фізічная пагроза, - заявіў раней пра сваю эміграцыю экс-кандыдат у прэзыдэнты. — Усе бачаць, што гэтыя людзі гатовы пайсьці на ўсё, у іх дзеяньнях няма законнасьці і адкрытасьці"

*23.03.2011*

## Дыктатар можа апынуцца на лаве падсудных

Брытанская юрыдычная фірма абвясьціла, што рыхтуецца ініцыяваць прыватнае судовае расьследаваньне адносна прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі, паведаміла газэта "The Independent".



Сьледчыя, якія займаюцца праблемамі парушэньня правоў чалавека, правялі інтэрвію з сотнямі актывістаў, арыштаваных пасьля сьнежаньскіх выбараў у Беларусі. Яны выявілі, што катаваньні, зьбіцьцё і антыгуманныя умовы ўтрыманьня ў месцах зьняволеньня – звычайная практыка ў краіне, якая па-ранейшаму называе свае сакрэтныя службы абрэвіятурай "КГБ", адзначае Джэром Тэйлар у сваім артыкуле "Лукашэнка: дыктатар на лаве падсудных".

З 205 апытаных 148 былі зьбітыя у турмах

Як найменей 689 чалавек былі арыштаваныя 19 сьнежня, калі Лукашэнка загадаў атрадам міліцыі асаблівага прызначэньня падавіць прадэмакратычныя пратэсты ў цэнтры Менску. Пасьля гэтага яшчэ сотні чалавек былі кінутыя за краты, і многія апазыцыйныя палітыкі, журналісты і грамадзкія актывісты апынуліся пад пагрозай зьняволеньня да 15 гадоў паводле абвінавачаньня ў арганізацыі масавых акцыяў, нагадвае аўтар.

Беларускія і міжнародныя праваабаронцы апыталі 205 затрыманых зь ліку тых, каго ўлады ўжо вызвалілі, прысудзіўшы да штрафаў альбо невялікіх тэрмінаў пасьля пасьпешлівых судоў без адвакатаў. З 205 чалавек 148 паведамілі, што іх зьбівалі ў часе папярэдняга затрыманьня, пры гэтым 57 заявілі, што іх білі дубінкамі.

"У многіх выпадках супрацоўнікі спэцслужбаў білі і прыніжалі людзей, затрыманых пасьля акцыяў пратэсту, і часамі трымалі на марозе, пазбаўлялі вады, ежы і элементарных выгодаў, а пасьля пасьпешліва арганізаваныя суды вынесьлі ім прысуды без усялякага намёку на належным чынам праведзены судовы працэс", – кажа Ганна Сэварц'ян, дырэктар Human Rights Watch па Расеі, якая апублікавала гэтыя дадзеныя.

Джэром Тэйлар у артыкуле прыводзіць канкрэтныя прыклады катаваньняў у беларускіх турмах і паведамляе, што адна з вядучых праваабарчых кампаній, H20 Law, якая першая выкарыстала брытанскую юрыдычную сыстэму для перасьледу фінансавых актываў "Сапраўднай IPA", заявіла аб тым, што пляную пачаць і прыватны перасьлед, і ўчыніць грамадзянскі пазоў спадару Лукашэнку.

Кампанія H2O Law прадстаўляе рух "Free Belarus Now" ("Неадкладна вызваліце Беларусь") – групу энтузіястаў, заснаваную сем'ямі арыштаваных апазыцыйных палітыкаў і журналістаў.

"Мы упэўненыя, што маем ўсё неабходнае, каб прад'явіць як прыватнае абвінавачаньне, так і грамадзянскі пазоў Аляксандру Лукашэнку", – заявіў Джэйсан Мак'ю, партнэр-заснавальнік H2O Law.

Юрысты спадзяюцца, што прыватнае абвінавачаньне прывядзе да выдачы ордэра на арышт Лукашэнкі. Беларускі кіраўнік і яго атачэньне ўжо трапілі пад забарону на ўезд у краіны ЭЗ, але ордэр на арышт распаўсюджваецца і на тыя краіны па-за межамі ЭЗ, зь якім Вялікая Брытанія мае дамову аб экстрадыцыі.

H2O Law мае намер перасьледаваць Лукашэнку ад імя ягоных ахвяраў і таксама пляную захады супраць яго фінансавых актываў у Вялікай Брытаніі і ва ўсім сьвеце.

Кампанію H2O Law спачатку запрасілі для таго, каб зьвярнуць увагу ААН і Міжнароднага суду ў Гаазе на парушэньні правоў чалавека ў Беларусі. Але абвінавачаньні ў катаваньнях, асабліва пасьля заявы экс-кандыдата ў прэзыдэнты Алеся Міхалевіча, далі магчымасьць пайсьці далей.

Калі H20 Law будзе дзейнічаць, як запланавана, гэта будзе першы выпадак, калі юрысты-праваабаронцы прыцягнуць да суду кіраўніка сувэрэннай дзяржавы. Паводле міжнароднага заканадаўства, катаваньні – адзін зь нешматлікіх відаў злачынства, паводле абвінавачаньня ў якім можна патрабаваць зьняць імунітэт сувэрэна.

"Калі абвінавачаньне ўключае віну ў катаваньнях, патэнцыйна гэта дазволіць суду выкарыстаць агульную юрысдыкцыю, і ён таксама можа ануляваць сувэрэнны імунітэт, на які можа прэтэндаваць Лукашэнка", – кажа Мэцью Джуры, адвакат H2O Law, які правёў увесь апошні месяц у размовах з уцекачамі зь Беларусі, якія ратуюцца ў Эўропе.

*09.03.2011*

# Філарэт узнагародзіў МУС за крываваю бойню



4 сакавіка перад урачыстым канцэртам, прысвечаным Дню міліцыі, Мітрапаліт Філарэт перадаў міністру унутраных справаў Куляшову харугву з выявою Хрыста Збаўцы і прачытаў з гэтай нагоды ўрачыстую малітву.

Зьвяртаючыся да прысутных міліцыянтаў, кіраўнік праваслаўнай царквы пачаў сваю прамову словамі: "Наша краіна квітнее стараньнямі многіх людзей. Вашу працу - абарону Айчыны ад зласьліўцаў, можна назваць крыжоваю …"

# Раскол пад выглядам кансалідацыі

Як паведаміла Агенства БЕЛТА 12 сакавіка ў Рызе адбылося пасяджэньне круглага стала "Беларусь – неад'емная частка Эўропы. Кансалідацыя беларусаў замежжа". Паводле БЕЛТА кіраўнікі грамадзкіх непалітычных арганізацый беларускай дыяспары суседніх з Беларусьсю краінаў, якія бралі ўдзел ў пасяджэньні, мелі на мэце прыцягнуць увагу да кампаніі ціску на сваю этнічную Радзіму, якая разгарнулася ў Эўразьвязе, ЗША і іншых краінах у сувязі з падзеямі 19 сьнежня 2010 году ў Менску.

Удзельнікі круглага стала прынялі зварот да кіраўнікоў дзяржаваў Эўразьвязу, сяброў Рады Эўропы і дэпутатаў Эўрапарлямэнту, у якім заклікаюць вярнуцца да канструктыўнага дыялёгу з Беларусьсю. У Звароце асуджаюцца санкцыі, якія прынятыя заходнімі краінамі ў адносінах да беларускага рэжыму, падкрэсьліваецца, што гэта вяртаньне да часоў "халоднай вайны" і што іншыя краіны не могуць навязваць сваю волю незалежным дзяржавам, якою ёсьць Беларусь..

Свае подпісы пад Зваротам паставілі старшыня Саюза беларусаў Латвіі Валянціна Піскунова, старшыня Аб'яднаньня беларусаў Літвы Раман Вайніцкі, намесьнік старшыні Беларускага таварыства "Сябры" (Нарва, Эстонія) Людміла Аннус, старшыня Беларускага таварыства культуры "Лёс" (Таллін) Тацьцяна Ніжнік, старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расеі Валеры Казакоў, старшыня Рэгіянальнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Масквы Сяргей Кандыбовіч, старшыня Вінніцкага абласнога зямляцтва беларусаў, намесьнік старшыні Каардынацыйнай Рады Усеукраінскага саюза беларусаў Уладзімір Качэлаба.

Адзін з падпісантаў Раман Вайніцкі з Вільні ўжо напярэдадні агучыў намеры пралукашэнкаўскіх сілаў сярод беларускай дыяспары ў Балтыйскіх краінах , Расеі і Украіне аказаць падтрымку беларускаму дыктатару, які апынуўся ў ізаляцыі.

З выгляду салідны сьпіс падпісантаў Звароту і гучныя назвы іх пасадаў разьлічаны на тое, каб увесьці ў зман міжнародныя структуры, урады заходніх краінаў ды і ўсё беларускае замежжа, паказаць, што беларускае замежжа на баку дыктатара. Але, гэта наўрад ці ўдасца, бо ў кожнай краіне як беларускія эміграннты так і мяйсцовыя ўлады добра ведаюць, кім былі створаныя гэтыя арганізацыі,чые думкі яны выказваюць і якую здрадніцкую ролю яны выконваюць у беларускай дыяспары.

Вось як рэагавалі на заяву Вайніцкага, які прысвоіў сабе права гаварыць ад імя ўсіх беларусаў Літвы прадстаўнікі старэйшых беларускіх арганізацый у гэтай краіне.

Кіраўнік Таварыства беларускай культуры – найбольш уплывовай беларускай суполкі ў Літве сп. Хведар Нюнька выказаў сваю катэгарычную нязгоду з тым, што арганізацыя, якую ўзначальвае Раман Вайніцкі, мае права выказвацца ад імя ўсіх беларусаў Літвы. Ён выказаў упэўненасьць, што тэкст заявы ад імя Вайніцкага быў "спушчаны зьверху" беларускімі ўладамі. "Я абсалютна не згодзен з заявою, якую зрабіў Вайніцкі " - сцьвярджае Хведар Нюнька.

*Ганна Сурмач*

***Прапануем таксама тэкст заявы, якую даслала нам старшыня Віленскага беларускага Таварыства палітычных вязьняў і ссыльных сп. Валянцін Стэх:***

# Заява Віленскага беларускага таварыства палітычных вязняў і ссыльных

У адказ на зробленую прэзідэнтам Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве сп. Р. Вайніцкім заяву для DELFI ад імя беларусаў краіны напярэдадні канферэнцыі беларусаў замежжа (Эстоніі, Латвіі, Літвы, Польшчы і Расіі) ў Рызе ў сваю чаргу заяўляем, што:

Ні я асабіста, як фізічная асоба і як беларус, ні наша Таварыства, як асоба юрыдычная і як адна з беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве, якую я маю гонар прадстаўляць, нікога, у тым ліку сп. Р. Вайніцкага, рабіць якія-небудзь заявы ад майго/нашага імя не ўпаўнаважвалі.

Думаю, што перш чым выступаць з падобнымі заявамі, трэба было пацікавіцца спачатку меркаваннем іншых беларусаў - беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве.

Да таго ж, грамадскія арганізацыі аб'ядноўваюць у сваіх шэрагах толькі вельмі нязначную частку нашага грамадства. Таму, рабіць такія заявы ад імя ўсіх беларусаў Літвы, як мінімум, не карэктна.

У сувязі з вышэй сказаным, заяўляем, што Віленскае беларускае таварыства палітычных вязняў і ссыльных ніякага дачынення да гэтай заявы не мае і яе не падтрымлівае.

*Старшыня Віленскага беларускага таварыства палітычных вязняў і ссыльных Валянцін Стэх*

# Наста Палажанка атрымала прэмію ДзяржДэпартамэнту ЗША

Часовы паверaны ЗША ў Беларусі Майкл Скэнлан уручыў Міжнародную жаночую прэмію «За мужнасьць» намесьніцы старшыні «Маладога фронту» Насьце Палажанцы. 20-гадовая Наста стала першай беларускай, узнагароджанай прэстыжнай прэміяй, якую Дзяржэпартамэнт ЗША штогод уручае 10 жанчынам розных узростаў і нацыянальнасьцяў.

З нагоды Міжнароднага дня жанчын часовы паверaны ЗША ў Беларусі Майкл Скэнлан наладзіў урачысты прыём, на які былі запрошаныя жанчыны-праваабаронцы, журналісткі, маці пацярпелых ад уладаў грамадзкіх актывістаў. Аднак галоўнай падзеяй урачыстасьці сталася ўручэньне прэміі Насьце Палажанцы.

Урачыстае ўшанаваньне атрымальніц прэмій Дзяржэпартамэнту ЗША адбылося 8 сакавіка ў Вашынгтоне. Дзяржсакратар Гілары Клінтан падчас уручэньня выказала шкадаваньне, што беларуска Наста Палажанка ня можа асабіста атрымаць узнагароду, бо ўлады забаранілі ёй пакідаць краіну. «Краіна ў цэнтры Эўропы дагэтуль прыгнятае свой народ, фальсыфікуе выбары, самым жорсткім і брутальным чынам зьнявольвае палітычных апанэнтаў, каб іх напалохаць. Але яна не спужалася і выказала сваю пазыцыю».

*Паводле Радыё Свабода 10.03.2011*



**Майкл Скэнлан уручае прэмію Насьце Палажанцы**

# Заява ад беларускіх грамадскіх арганізацый Літвы

Пасля фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі 19 снежня 2010 года назіраюцца спробы легітімізаваць рэжым Лукашэнкі і апраўдаць рэпрэсіі, якія адбываюцца ў Беларусі. З гэтай мэтай выкарыстоўваюцца шэраг лаяльных да беларускай ўлады арганізацый. Як прыклад - вынікі канферэнцыі, якая адбылася 12 сакавіка ў Рызе, на якой быў прыняты зварот з пратэстам супраць санкцый да рэжыма Лукашэнкі.

У сувязі з гэтым заяўляем, што мы, беларускія грамадскія арганізацыі Літвы, якія не ўваходзяць у "Згуртаванне беларусаў Літвы" - не падтрымліваем прыняты на каферэнцыі ў Рызе зварот. На працягу доўгага часу назіраліся шматлікія спробы кіраўніцтва Еўрапейскага Звязу і сусветнай грамадскасці, дамагчыся дэмакратызацыі Беларусі, але большасць з іх была, на жаль, малаэфектыўнай, таму што дыктатура разумее толькі мову сілы. Гэта пацвярджаецца тым, што толькі тады, калі ўзнікала пагроза эканамічных санкцый, вызваляліся палітвязні і зніжалася хваля рэпрэсіяў.

Звяртаемся да Еўразвязу і сусветнай грамадскасці з заклікам зрабіць рашучыя крокі зараз, якія паспрыяюць спыненню рэпрэсіяў у Беларусі. Такімі крокамі павінны стаць усе неабходыя санкцыі, супраць рэжыму Лукашэнкі.

Разам з тым мы заўсёды гатовыя да дыялогу з усімі дэмакратычнымі сіламі, як унутры Літвы, так і за яе межамі і падтрымліваем дыялог Еўропы з Беларуссю, пры ўмовах спынення рэпрэсіяў, вызвалення палітвязняў і правядзення свабодных дэмакратычных выбараў.

**Культурны цэнтр Якуба Коласа ў Вільні**
**Таварыства беларускага пісменства**
**Беларускі музей імя Ів. Луцкевіча**
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
**Маладзёвая ініцыятыва StudAlliace**
**Беларускае бюро палітыча-грамадзянскага прадстаўніцтва ў Літве**
**Рада згуртавання беларускай моладзі Віленшчыны**

# Сапраўднае застаецца!

### (з жыцьця беларусаў Літвы)

У лютым месяцы ў Таварыстве Беларускай Культуры ў Літве адбылося мерапрыемства, прысьвечанае дзеячам, якія нарадзіліся ў гэтым месяцы. Праграма атрымалася вельмі багатая. У хуткім часе катэдра беларусістыкі адзначае 20- годдзе дзейнасьці ў Літве. Першай выступіла загадчыца катэдры Лілея Плыгаўка. "Мы жывём у вельмі цікавы час і на ўнікальнай тэрыторыі, якая называецца Віленскі край. Побач жывуць лрадстаўнікі розных нацыянальнасьцяў - літоўцы, палякі, беларусы, караімы і інш. , адбываецца ўплыў розных культур, моваў, рэлігій. Тыповы жыхар гэтага рэгіёна валодае некалькімі мовамі, ўжывае словы з іншых моваў, адбываецца цеснае культурнае перапляценьне.

Каля Вільні ёсьць вёска Ашашнікі, у якой жывуць у асноўным жанчыны- беларускі, а мужчыны- літоўцы. Яшчэ ў гэтым рэгіёне існуе такі ўнікальны феномен, як "тутэйшы". У гэтым рэгіёне ніколі не было міжнацыянальных канфліктаў. На гэтай тэрыторыі пражывае шмат беларусаў, іх можна падзяліць на две часткі- аўтахтоны, якія тут нарадзіліся, і тыя, хто прыехаў у пасьляваенны час. У пасьляваенны перыяд у Літве не існавала ніводнай навучальнай установы на беларускай мове. У канцы
80-х гадоў , у Літве пачалі ўзьнікаць першыя беларускія суполкі - "Сябрына", Таварыства Беларускай Культуры, адкрыўся першы беларускі кляс пры 13 школе, а потым, калі набралася больш 200 заяваў ад бацькоў, паўстала пытаньне сваёй школы.

Дзякуючы намаганьням Хведара Нюнькі, Лявона Луцкевіча, Лілеі Плыгаўкі памяшканьне было атрымана, пачала працаваць Віленская беларуская школа № 69, цяпер школа імя Францішка Скарыны, адбылося ўжо 17 выпускаў. Пасьляхова працуе і кафедра беларусістыкі пры Віленскім педагагічным універсітэце, яе бязьзменна ўзначальвае доктар навук Лілея Плыгаўка. У 2009 годзе выйшла кніга Л.Плыгаўкі "Беларуская мова ў Літве: сацыякультурны і лінгвістычны асьпекты", дапаможнік для студэнтаў і для тых, хто цікавіцца беларускай мовай.



Прамаўляе Лілея Плыгаўка

Выпускнікі атрымоўваюць добрую адукацыю, валодаюць некалькімі эўрапейскімі мовамі, многія займаюцца прафесійна журналістыкай.

Наступны выступоўца - чалец ТБК, войт Вацлаў Гульбіновіч падрабязна распавёў пра сваю працу, да яго было шмат пытаньняў.

Сп. Алесь Адамковіч займаецца дасьледаваньнем жыцьця і дзейнасьці беларускіх сьвятароў. Гэтым разам ён распавёў пра жыцьцядзейнасьць Тамаша Падзявы і пра Янку Быліну ( Ян Семашкевіч). Абодва працавалі на карысьць Бацькаўшчыны, стараліся данесьці слова Божае да сваіх прыхажан на роднай мове, абодва пацярпелі, адбывалі пакараньне ў сталінскіх лагерох.. Янка Быліна нарадзіўся на памежжы, цяпер Астравецкі раён, служыў ў Лаварышках. Кажуць, што 20 гадоў назад бабулькі Лаварыскага прыходу сыявалі каталіцкія песьні на беларускай мове і казалі, што іх навучыў ксёндз Ян Семашкевіч.

Вельмі цікавымі і зьмястоўнымі былі даклад Артура Яўмена, прысьвечаны Тадэвушу Касьцюшку і выступленьне Анатоля Уласенкі пра графа Канстанціна Тышкевіча,.

Сп.Хведар Нюнька сваё выступленьне прысьвяціў гісторыку, грамадзкаму і палітычнаму дзеячу Усеваладу Ігнатоўскаму.

8 лютага 1921 года нарадзіўся Іван Мележ, аўтар "Палескай хронікі" пра яго-ную творчасьць распавядала Лекакадзія Мілаш. Яна згадала, што ў 1885 годзе Марк Твэн пісаў;"Ёсьць толькі адзін эксперт, які прафесійна валодае кваліфікацыяй, дастатковай, каб зразумець душу і жыцьцё народа і адэкватна іх ацаніць- гэта нацыянальны раманіст, якіх вельмі мала нават у шматлюднага народу". Такім нацыянальным раманістам быў Іван Мележ. Мала ён пражыў, мог яшчэ шмат сказаць, але тое, што сказаў сапраўднае, а сапраўднае застанецца.

*Леакадзія Мілаш,*
*Вільня, люты 2011*

# Лютаўскі сход Бруклінскага аддзелу БАЗА

27 лютага адбыўся чарговы сход Бруклінскага аддзелу БАЗА. Галоўнаю тэмаю пасяджэньня была падрыхтоўка да сьвяткаваньня 25 Сакавіка. Сход пастанавіў правесьці сьвяточную імпрэзу 27 сакавіка ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага у Брукліне. Упраўе аддзелу было даручана распрацаваць і падрыхтаваць праграму сьвята.

Другая частка сходу была інфармацыйнай. Адбылася прэзентацыя новай кнігі сп. Зянона Пазьняка "Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня" кн. 3, якую прадстаўляў сам аўтар. Сп. Пазьняк падзяліўся ўспамінамі пра пачаткі новага беларускага Адраджэньня і пра дзейнасьць дэпутатў ад БНФ у Вярхоўным савеце, іх змаганьне за дэмакратычныя рэформы і ролю ў справе абвяшчэньня незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. Сёньня ўжо гэта гісторыя і яна павінна быць зафіксавана непасрэднымі ўдзельнікамі тых падзеяў, дзеля гэтага і выдавалася кніга. Прысутныя, якія ўжо пасьпелі пазнаёміцца з выданьнем, выказалі сваё бачаньне значнасьці выданьня. Асабліва зьмястоўным было выступленьне Тацьцяны Красоўскай, якая выказала ўдзячнасьць аўтару і высока ацаніла ягоныя намаганьні захаваць для будучыні сьведчаньні пра такія важныя старонкі гісторыі нашай краіны.



Напрыканцы прысутныя мелі магчымасьць праглядзець новы фільмы Юрыя Хашчавацкага пра імперыялістычную палітыку сучаснай Расеі і яе пагрозу для Беларусі.

*Ганна Сурмач*

# Беларуска-шведзкі гурт "Dreamgale" упершыню выступіў на Радзіме

Беларуска-шведзкі містычны гурт "Dreamgale" упершыню за пяць год існавання наведаў Беларусь у поўным складзе, выступіўшы на шэрагу тэлепраектаў.

"Dreamgale" — шведскі гатычны поп-рок-электра-гурт, які выконвае самабытную містычную музыку, у якой спляліся матывы "Enigma" і "Roxette", "Nightwish" і "Evanescence".



**Зміцер Палагін (злева), Майкл Сэндэр і Сафія Матсан. Фота: dreamgale.com**

Студыйны праект быў заснаваны ў 2006 годзе ў Стакгольме беларусамі Майклам Сэндэрам (Michael Sender) і Змітром Палагіным (Dmitry Palagin). Хлопцы — карэнныя мінчукі. Майкл пераехаў у Скандынавію ў 13 год па сямейных абставінах. Зміцер у студэнцтве перавёўся з БДУ ў Каралеўскі тэхнічны каледж у Стакгольме. На ролю вакалісткі беларусы запрасілі шведку Сафію Матсан (Sofia Mattsson).

Над сваім першым альбомам "Memories In Dark Crystal" (2009) гурт працаваў два гады. Стаміўшыся ад дыктату буйной рэкард-кампаніі, музыкі скасавалі з ёй дамову, адкрылі ўласнае музычнае выдавецтва ды выклалі ўвесь матэрыял у свабоднае карыстанне на свой інтэрнэт-сайт. Цікава, што ў відэаверсіі песні "Wonders", што стала хітом на беларускіх радыёстанцыях, шведка Матсан праспявала адзін з куплетаў па-беларуску.

*Паводле TUT.BY*
*12.03.2011*

## Памяці Валеры Рубінчыка

У Маскве на 71 годзе жыцьця памёр Валеры Рубінчык. Адзін з самых знаных беларускіх кінарэжысэраў апошнія дваццаць гадоў ня быў запатрабаваны на Радзіме і выкладаў ва Ўсерасейскім інстытуце кінэматаграфіі.

Валеры Рубінчык нарадзіўся 17 красавіка 1940 году ў Менску ў сям'і патомных інтэлігентаў. Скончыўшы Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, паехаў вучыцца ў Маскву ва Ўсесаюзны дзяржаўны інстытут кіно. Атрымаўшы дыплём кінарэжысэра, вярнуўся на радзіму і ад 1969 году працаваў на «Беларусьфільме».

Валеры Рубінчык зьняў на «Беларусьфільме» больш за 20 стужак. Апошнім ягоным фільмам, зьнятым на беларускім матэрыяле, але ўжо ў Маскве, быў «Барыс Забораў». Найбольш знакамітым з усіх яго карцін стала «Дзікае паляваньне караля Стаха» (1979) паводле гістарычнай аповесьці Ўладзімера Караткевіча. Зь ёю ён езьдзіў на многія міжнародныя кінафэсты і атрымаў за яе прыз журы кінафэсту ў Манрэалі.



*Паводле Радыё Свабода*
*02.03.2011*

Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі

Association of Belarusians in Great Britain Ltd

Est. 1946

52 Penn Road, London, N7 9RE Tel/fax: 020 7609 1319 e-mail: zbvb@siarhei.plus.com

Registration No: 00462750

Сакавік 2011

**Дарагія суродзічы!**

**Са Сьвятам – Днём Незалежнасьці!**

Ад імя Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі віншуем Вас з **93-мі ўгодкамі** абвяшчэньня **Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі!**

Абвешчаны ў Менску Акт Незалежнасьці 25-га Сакавіка 1918 г. заснаваў падмурак Беларускай Дзяржаўнасьці, стаўся для беларусаў надзеяй на адраджэньне краіны.
Шлях да атрыманьня Незалежнасьці ня быў лёгкім для Беларускага народу. Вялікую цану заплаціў ён за ідэалы прагалошаныя ў Сакавіку 1918. Але тыя падзеі прынеслі свой плён і сёньня Беларусь,- незалежная і суверэнная краіна.

На вялікі жаль, дыктатар Лукашэнка і яго прыслужнікі за апошнія сямнаццаць гадоў кіраваньня праз зьнявагу беларускай мовы, палітычны пераслед, абмежаваньне інфармацыі, уцягваньне краіны ў палітычную і эканамічную пастку Расіі засьведчылі сваю здрадніцкую пазіцыю да гісторыі Беларусі, беларускага народа, беларускай дзяржаўнасьці. Як следства, - шматлікія арышты беларускай моладзі 19-га Сьнежня 2010, катаваньні і жорсткія прысуды.

Але мы перакананыя, што негледзячы на здраду сучаснага кіраўніцтва краіны, прыйдзе час і беларусы сваімі рукамі здабудуць лепшую долю для сваёй Бацькаўшчыны і першы крок быў зроблены 19-га Сьнежня.

**Жыве Беларусь!**

*Управа Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі*

## Вяртаньне “чорных сьпісаў”

У беларускай блогасферы з'явіўся спіс забароненых да згадвання ў афіцыйных СМІ "дзеячаў мастацтва і творчых калектываў". Паводле інфармацыі блогераў, гэтая паперка прыйшла ў рэдакцыі ўсіх буйных афіцыйных СМІ. У спіс увайшлі як беларускія, так і замежныя творчыя людзі.

СПИСОК
деятелей искусства, творческих коллективов

**Беларусь:**
группы "Ляпис Трубецкой", "Палац", "Крама", "N.R.M", "Нейр
Дюбель", "Крамбамбуля", "Нака";
певец Дмитрий Войтюшкевич;
драматург Андрей Курейчик;
коллектив "Свободного театра" (директор Наталья Коляд
Владимир Щербань, арт-директор Николай Халезин, помощни
режиссера Алексей Ширневич, Ирина Ярошевич, актеры Ол
Сидорчик, Павел Городницкий, Денис Тарасенко, Яна Русакеви
Марина Юревич, Никита Володько, Артем Железняк);
писатель Ольга Ипатова;
члены Рады белорусской интеллигенции: – народная артист
Беларуси Зинаида Бондаренко, поэты Геннадий Буравкин, Серг
Законников, Анатолий Вертинский, художники Микола Купав
Алексей Марочкин, драматург Владимир Халип, кинорежиссер Юр
Хащеватский, кинорежиссер Владимир Колос.

**Россия:** группы: "ДДТ", "Наив", "Тараканы";
певец Дмитрий Спирин;
писатели: Андрей Битов, Борис Васильев, Александр Гельма
Виктор Ерофеев, Леонид Жуховицкий, Кирилл Ковальджи, Эдуа
Успенский.

**Европа:** рок- и поп-музыка: Нил Теннант и "Pet Shop Boys", Р
Луис и артисты группы "Tru Thoughts", группа "Wah Wah 45" ("Кв
Ква 45"), группа "7 Samurai" (все – Великобритания);
ди-джеи: Format (Формат), Bonobo (Бонобо), Флориан Кел
(все – Великобритания);
драматург Том Стоппард (Великобритания);
актеры – участники Глобальной артистической кампан
солидарности с Беларусью: Кевин Клайн (США), Йэн Макэле
Сэмуэл Уэст, Джуд Лоу, Кевин Спейси (Великобритания).

# Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва

## *Хроніка*

Др. Ян Запруднік падрыхтаваў да друку кнігу аб беларускіх хорах, мастацкіх калектывах, выстаўках і г. д. ды значаньню і ўплыву беларускае культурніцкае дзейнасьці ў фармуляваньні ды прапагаваньні беларускіх палітычных ідэяў.

***

У стадыі апрацоўкі пад рэдакцыяй д-ра Вітаўта Кіпеля калектыўная праца аб беларускай інтэлектуальнай вытворчасьці па-за Беларусьсю: друк, мэмарабілія (значкі, маркі, капэрты і г. д), кружэлкі, радыёвяшчаньне, архіўныя зборы.

***

Выйшаў з друку 33 том “Запісаў БІНІМ”. Прыгадаем, што “Запісы” выдаюцца ад 1952 году – найстарэйшы і адзіны дасьледчы часапіс дыяспары. Рэдактар гэтага нумару, як і шэрагу апошніх, д-р Натальля Гардзіенка, галоўны рэдактар сэрыі – праф. Томас Бэрд. У рэдкалегію ўваходзяць Алег Гардзіенка, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Генадзь Сагановіч, Сяргей Шупа й Лявон Юрэвіч. “Запісы” выдаюцца пры фінансавай дапамозе Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага. Тэма апошняга нумару: эпісталярыі. Дэтальны агляд выпуску будзе зроблены ў наступных нумарах газэты.

***

Бюлетэнь “Кніжныя рэсурсы” Гарыманаўскага Цэнтру Калюмбійскага Унівэрсытэту № 2, 2011, у разьдзеле “Новыя набыткі – рэдкія выданьні” піша: набытая кніга з аўтаграфам Васіля Быкава, вялікага пісьменьніка сучаснае беларускае літаратуры, кандыдата на Нобелеўскую ўзнагароду, значнага й вядомага крытыка аўтарытарных рэжымаў на Беларусі як савецкага, гэтак і постсавецкага пэрыядаў.

Набыты “Дзёньнік” Зоры Кіпель, надрукаваны ў Менску і мала даступны на Захадзе. Зора Кіпель была ведамай асобай у беларускай дыяспары ды блізкім калегам праз даўгія гады працы ў Нью Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы, адзначыў дырэктар бібліятэкі Гарыманаўскага Цэнтру спр Робэрт Дэвіс. Кніга З. Кіпель – выдатны дакумэнт жыцьця беларускае эміграцыі.

***

У маскоўскім выдавецтве “Новое Литературное Обозрение” выйшла кніга прафэсара Зіны Гімпелевіч “Василь Быков: книги и судьба”. У анатацыі да выданьня зазначаецца, што праф. З. Гімпелевіч, прэзыдэнт Канадыйскай Асацыяцыі Славістаў, сябра беларускіх арганізацый, выдатны спэцыяліст па творчасьці Васіля Быкава. Цяперашняе выданьне – пятая кніга праф. Гімпелевіч.

**Дарагія Суродзічы!**
**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва – адзіная арганізацыя інтэлектуальнага кшталту, якая дзеіць на эміграцыі вось ужо 60 год! Уся праца ў БІНІМе – дабраахвотная, без аплаты. Выдадзена Інстытутам больш як 50 кніжак. На друк, аднак, нам патрэбныя грошы. Патрэбныя ахвяраваньні. Будзем удзячныя за любую суму.**

*З падзякай, доктар Вітаўт Кіпель, старшыня*

## Менск уступіў у "візавую вайну" з Эўропай і ЗША

Рада Эўразьвязу сёньня пашырыла сьпіс беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд на сваю тэрыторыю, да 177. Да Аляксандра Лукашэнкі, ягоных старэйшых сыноў, кіраўнікоў выбарчых камісіяў, адказных за фальшаваньне выбараў 19 сьнежня, прадстаўнікоў дзяржаўных СМІ, сілавых структураў, адказных за разгон акцыі пратэсту, дадаліся пракуроры і судзьдзі, якія выносяць суровыя прысуды арыштаваным апазыцыянэрам. Тым часам у беларускім урадзе заявілі пра свае візавыя санкцыі ў адказ — супраць прадстаўнікоў Эўразьвязу і ЗША.

Рада Эўрапейскага Зьвязу ўхваліла рашэньне аб пашырэньні абмежавальных захадаў (візавых і фінансавых) супраць беларускіх чыноўнікаў, адказных за фальшаваньне выбараў і рэпрэсіі адносна грамадзянскай супольнасьці. Міністры замежных спраў 27 краін Зьвязу ўключылі ў сьпіс прадстаўнікоў беларускага рэжыму, адносна якіх дзейнічае забарона на паездкі ў Эўропу і замарожваньне актываў, яшчэ 19 асоб. Поўны сьпіс будзе апублікаваны 22 сакавіка ў выданьні "Official Journal".

Як раней заяўляла Вярхоўны прадстаўнік Эўразьвязу па замежных справах і палітыцы бясьпекі Кэтрын Эштан, "у адпаведнасьці з рашэньнем Рады па замежных справах ад 31 студзеня сьпіс асобаў, на якіх накладзеныя абмежавальныя захады, застаецца адкрытым і стала пераглядаецца з улікам далейшага разьвіцьця сытуацыі ў Беларусі".

Падставай для такога пашырэньня "чорнага сьпісу" сталіся судовыя працэсы, якія пачаліся супраць арыштаваных у ходзе разгону дэманстрацыі 19 сьнежня, і жорсткія прысуды абвінавачаным. Агульны лік дзеячаў беларускага рэжыму, якім забаронена наведваць Эўропу і чые рахункі будуць замарожаныя, вырас да 177. Перш за ўсё да яго дадаліся пракуроры і судзьдзі, якія выступалі на крымінальных працэсах супраць удзельнікаў дэманстрацыі 19 сьнежня.

*Паводле Радыё Свабода*
*21.03.2011*

# Зварот да Беларускага грамадства

21 студзеня 2013 г. споўніцца 175 гадоў з дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага. У студзені - лютым гэтага ж году споўніцца таксама 150 гадоў ад пачатку паўстання 1863 г. у Польшчы, Беларусі і Літве.

Заслугі Кастуся Каліноўскага перад рэвалюцыйным рухам і беларускай культурай неаспрэчныя. У яго дзейнасці знайшлі ўвасабленне найбольш рэвалюцыйныя тэндэнцыі паўстання 1863 г. Як правадыр і тэарэтык рэвалюцыйнай дэмакратыі, ён увайшоў у гісторыю грамадскай думкі і рэвалюцыйнага руху Беларусі.

Веліч К.Каліноўскага ў тым, што ён выступіў выразьнікам і непахісным абаронцам інтарэсаў прыгнечанага і бяспраўнага сялянства, прысьвяціўшы гэтай высакароднай мэце незвычайны талент мысліўца, публіцыста і рэвалюцыянера. Ён не толькі здолеў узняцца да прызнаньня неабходнасьці народнай рэвалюцыі, як сродку карэннай перабудовы грамадства, але і непасрэдна заклікаў беларускіх сялянаў на барацьбу за зьвяржэнне царскага самаўладства.

Вялікая заслуга К.Каліноўскага ў тым, што яго дзейнасць стала прыкладам абуджэння нацыянальнай і сацыяльнай свядомасці. Ён зрабіў адметны ўклад у фарміраванне беларускай літаратурнай мовы, стаў творцам беларускай рэвалюцыйнай публіцыстыкі, быў выдаўцом першай газеты на беларускай мове. Ён стварыў першае ў гісторыі былой Расейскай імперыі рэвалюцыйнае выданьне для працоўных мас, для сялянства – нелегальную газету "Мужыцкая праўда". З імем К.Каліноўскага звязана самабытная старонка ў гісторыі беларускай паэзіі.

Веліч К.Каліноўскага і ў тым, што свой кароткі жыццёвы шлях ён пражыў як сапраўдны герой. Ён уражваў паплечнікаў, сучасьнікаў і, нават, сваіх ворагаў такімі якасцямі, як выключная мужнасць, стойкасць, сьмеласць, воля, беззапаветная адданасць ідэалам вызваленчай барацьбы, непахісная ўпэўненасць у перамозе народнай справы. Незвычайныя асабістыя якасці К.Каліноўскага, як і іншых герояў паўстання 1863 г., паслужылі прыкладам для выхаваньня наступных пакаленьняў барацьбітоў з самадзяржаўем.

Паўстанне ў Польшчы, Беларусі і Літве паказала Еўропе, што ідэі рэвалюцыйнага руху непарыўна зьвязаны з імкненнямі народных масаў да сацыяльнай справядлівасці.

Вялікая роля, якую адыграў К.Каліноўскі ў паўстанні 1863 г., яго патрыятызм, самаахвярнасць і самаадданасць заслугоўваюць ушанавання.

Мы прапануем:

1. Стварыць Музей паўстаньня 1863 г. у г. Менску, ці ў бліжэйшым зручным месцы каля г. Менска (напрыклад, у вёсцы Плябань Маладзечанскага раёна каля чыгуначнай станцыі Уша, дзе пахаваны паўстанцы 1863 г. на чале з кіраўніком атрада Юльянам Бакшанскім).
2. Стварыць Музей К.Каліноўскага на яго радзіме ў г.п. Сьвіслач
3. Паставіць помнікі К.Каліноўскаму ў Мінску, Гродне і г.п. Свіслач
4. Устанавіць мемарыяльныя дошкі на месцах актыўных дзеянняў паўстанцаў
5. Вызначыць месца для ўстаноўкі камяня паўстанцаў, як сімвалічнага знака ўсім дзеячам паўстання 1863 г.
6. Выдаць энцыкляпедычны даведнік "Кастусь Каліноўскі"

Зьвяртаемся да Беларускагас грамадства на Бацькаўшчыне і ў замежжы з просьбаю падтрымаць нашыя прапановы і прыняць удзел у іх ажыцьцяўленьні.Для гэтай працы мы маем амаль два гады і за гэты час можна зрабіць шмат, каб ушанаваць памяць змагароў за волю.

*Сябры клюба "Спадчына"*
*г. Менск*

# Выйшла кніга ўспамінаў Аляксандра Стагановіча

У выдавецтве "Лімарыус" выйшла кніга Аляксандра Стагановіча "Успаміны пасла". Акрамя ўласна ўспамінаў Аляксандра Стагановіча, які ў 1928 годзе быў абраны беларускім паслом у польскім Сейме, кніга змяшчае і ягоныя артыкулы мемуарнага характару, прысвечаныя падзеям у Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд.

Кніга "Успаміны пасла" адкрывае новую серыю "Беларуская мемуарная бібліятэка". Тут будуць друкавацца ўспаміны, дзённікі, эпісталярыі, пакінутыя беларусамі або выхадцамі з Беларускіх земляў пра падзеі, што адбываліся ў Беларусі, у блізкім і далёкім замежжы цягам апошніх стагоддзяў.

Як адзначае ў прадмове гісторык Алесь Пашкевіч, да апошняга часу ў Беларусі фактычна не было звестак пра асобу Аляксандра Сагановіча. Прозвішча ягонае згадвалася хіба што пры пераліку паслоў, якія ў 1928 годзе прайшлі ў Польскі сейм са спіса Беларускага сялянска-работніцкага камітэта "Змаганне".

Абавязкі беларускага пасла ў польскім сейме Аляксандр Стагановіч выконваў толькі год. Адмовіўшыся ад пасольскага мандату, ён страціў пасольскую недатыкальнасць, быў арыштаваны і асуджаны на 6 гадоў няволі. Аднак той год, калі Стагановіч выконваў абавязкі пасла, быў для яго шмат ў чым лёсавызначальным. Менавіта таму і мемуары ягоныя называюцца "Успаміны пасла", хаця яны і ахопліваюць большы перыяд.




Пасля Другой сусветнай вайны Аляксандр Стагановіч апынуўся на эміграцыі, там ён актыўна займаўся беларускай дзейнасцю. Памёр ва ўзросце 98 гадоў, і ўвайшоў у гісторыю, як піша Алесь Пашкевіч, "не толькі тым, што пражыў даўжэй за ўсіх колішніх беларускіх нацыянальных прадстаўнікоў у міжваенным польскім парламенце ў абсалютным вымярэнні, але і тым, што ўсіх гэтых прадстаўнікоў пераджыў фізічна".

Змешчаныя ў кнізе ўспаміны і артыкулы Аляксандра Стагановіча з'яўляюцца каштоўнай крыніцай інфармацыі па палітычнай гісторыі Беларусі і будуць цікавымі як гісторыкам, так і проста аматарам беларускага чытва.

# Амбасада Японіі беларусам: усім дзякуй за прапанову дапамогі

Амбасада Японіі ў пасланьні да Радыё Свабода выказвае падзяку ўсім жыхарам Беларусі за прапановы дапамогі.

*16.03.2011*



**Акцыя салідарнасьці ў Сэндайскім сквэры ў Менску 14 сакавіка**



# Каляндар памятных датаў на красавік 2011 году

**4 красавіка** – 115 гадоў таму, у 1896 годзе, нарадзіўся Васіль Русак, грамадзка-палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня

**9 красавіка** - 65 гадоў таму, у 1946 годзе, у Міхельсдорфе (Нямеччына) было створана Беларускае літаратурнае згуртаваньне "Шыпшына"

**13 красавіка** – 130 гадоў таму, у 1881 годзе, рэвалюцыянер-народаволец Ігнат Грынявіцкі забіў расейскага цара Аляксандра 11 і загінуў сам.

**14 красавіка** – 910 гадоў таму, у 1101 годзе, памёр полацкі князь Усяслаў Чарадзей

**16 красавіка** – 100 гадоў таму, у 1911 годзе, нарадзілася Зоя Коўш (Каўшанка), беларуская дзеячка ў Вільні, вязень ГУЛАГу

**17 красавіка** – 120 гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся Язэп Варонка, палітычны дзеяч, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху,
журналіст, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў ЗША

100 гадоў таму, у 1911 годзе, нарадзіўся Сымон Шаўцоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі, пісьменьнік

**19 красавіка** – 130 гадоў таму, у 1881 годзе, нарадзіўся Усевалад Ігнатоўскі, гісторык, першы прэзыдэнт Беларускай Акадэміі навук

**20 красавіка** – 25 гадоў таму, у 1986 годзе, у Менску на Траецкім прадмесьці сьвяткавалася "Гуканьне вясны". На моладзь напалі ўдзельнікі аўганскай вайны, накіраваныя камсамолам і КДБ.

**23 красавіка** – 125 гадоў таму, у 1886 годзе, нарадзіўся Зьмітрок Бядуля, пісьменьнік, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху

20 гадоў таму, у 1991 годзе, у Штутгарце (Нямеччына) памёр Дзьмітры Касмовіч, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху і дзеяч эміграцыі ў Бэльгіі і Нямеччыне

**24 красавіка** – 5 гадоў таму, у 2006 годзе, памерла Вера Бартуль, дзеячка эміграцыі ў Вялікабрытаніі і ЗША

**25 красавіка** - 65 гадоў таму, у 1946 годзе, адбыліся асьвячэньне і першая Багаслужба ў беларускай праваслаўнай царкве ў Рэгенсбургу (Баварыя)

**26 красавіка** – 25 гадоў таму, у 1986 годзе, адбылася катастрофа на Чарнобыльскай АЭС. Дзень памяці ахвяраў Чарнобыля.

# Дзіцячая старонка

## ЗАБАРОНЕНАЯ СУКНЯ

*Напісаў і намаляваў Алег Аблажэй.*

Уладар адной краіны ненавідзеў жанчын. Зрэшты, такім жа быў і ягоны бацька, і дзед, і прадзед. Колькі сягала людзкая памяць, жанчыны жылі разам з жывёлай у хлявах, ня мелі права ўваходзіць у дом і былі вымушаны апранацца ў мяхі з дзіркамі для рук і шчылінай для вачэй. Кароль быў перакананы, што жанчыны створаны толькі для працы і для нараджэньня дзяцей, а прыдворныя мудрацы даводзілі ў сваіх трактатах, што жанчыны ўвогуле ня маюць душы гэтаксама, як іншая хатняя жывёла. А паколькі краіна гэтая была атачаная з усіх бакоў высокімі гарамі і ніхто адтуль нікуды не выязджаў, гасьцей з іншых краёў таксама не было, то ўсе лічылі, што такі парадак пануе ва ўсім сьвеце. А парадак гэты быў страшэнна жорсткі ў адносінах да жанчын, законы забаранялі ім любыя спробы сябе ўпрыгожыць -- за пярсьцёнак на пальцы адсякалі ўсю руку, за вяночак з палявых кветак можна было трапіць у турму на многія гады. Нават каралева насіла такі самы мяшок, як і ўсе астатнія жанчыны, вылучалася толькі пазалочанай каронай, аднак хоць і жыла ў замку, але не ў палацы, а ў стайні. За ўсім сачылі каралеўскія шпікі, пераапранутыя ў мяхі, і кабеты баяліся здымаць свае агідныя строі нават ноччу.



Далёка ад змрочнага каралеўскага замка жыла ў беднай хаціне адна жанчына з дачушкай. Яны ня спалі разам з жывёлай толькі таму, што былі залішне бедныя, каб такую мець. Дый іхняя халупа выглядала ня лепей чым хлеў або стайня. Муж гэтай жанчыны памёр і іхняя адзіная дачка не памятала, як ён выглядаў. Іх жыцьцё было такім жа, як і ва ўсіх астатніх кабет -- праца ад цямна да цямна на каралеўскіх палетках, а потым цяжкі сон на саламянай пасьцелі. Дзяўчынку звалі Арна. Яна мела чатырнаццаць гадоў, калі цяжка захварэла яе маці. І калі няшчасная кабета адчула, што хутка наступіць яе астатняя гадзіна, то паклікала да сябе дачку і апавяла ёй гісторыю свайго жыцьця.

"Мой бацька адрозьніваўся ад усіх іншых жыхароў тым, што падарожнічаў па цэлым сьвеце. У нейкім далёкім каралеўстве закахалася ў яго мая будучая маці, ды настолькі, што ўцякла з ім са свайго дому, хоць і ведала, у якіх умовах жывуць кабеты ў нашай краіне. А бацька ж не мог пакінуць сваёй радзімы, бо меў тут сваіх хворых бацькоў."

"У краіне, адкуль паходзіла тая паненка, -- працягвала далей маці Арны, --усё было іначай, чым у нас. Жанчыны там хадзілі вольна па вуліцах, жылі ў прыгожых дамах, былі каханымі і любымі для сваіх мужоў, бацькоў, братоў і сяброў. У іх гонар сьпявалі гімны, мастакі ўвекавечвалі іхнюю прыгажосць на карцінах і скульптурах. І, вядома ж, ніводная жанчына ня мела на сабе мярзотны мяшок з дзіркамі для рук і шчылінай для вачэй, а мелі яны прыгожыя, аздобленыя золатам і карункамі сукні. Адну такую цудоўную сукню мела і мая мама – вывезла яе са свайго краю. Вядома, днём яна мусіла насіць такі самы мех, як усе іншыя кабеты, але ноччу, шчыльна завесіўшы вокны, апранала на сябе гэту сукню, і яны з бацькам сядзелі ў бляску сьвечак і моўчкі глядзелі адно на другога. Я была тады малой дзяўчынкай, і,хоць мне надта хацелася спаць, я не магла адарваць вачэй ад сваёй мамы, бо яна выглядала ў той сукні як анёл. На жаль,бачылі тую сукню не толькі нашыя вочы, ўгледзела яе праз шчыліну ў дзьвярах зайздросная суседка. Гэтая асоба нібыта была закаханай у майго бацьку, і вырашыла яму адпомсціць. І данесла аб усім, што адбывалася ў нашым доме па начах, каралеўскім шпікам. І вось аднойчы ноччу акружылі наш дом стражнікі і ўварваліся ўнутр. Аднак таго разу бацькі мелі надзвычай цяжкі дзень і не мелі ўжо сілаў на пераапрананьне. Спалі аднак абодва ў тым самым ложку, што само па сабе было цяжкім злачынствам, да таго ж маці мела на сабе не мяшок, а шаўковую кашулю.

Шукалі ўсюды сукню, у хаце, на гарышчы, перакапалі нават зямлю ў гародзе, але дарэмна. У гэтай мітусні мне ўдалося ўцячы, але маці з бацькам я ўжо не ўбачыла больш ніколі. Патаемна вярнуўшыся дахаты праз некалькі дзён, першае, што я заўважыла, гэта матчыну сукню, якая вісела сабе спакойна на вешалцы. Не забралі яе стражнікі, бо ніколі не бачылі ніякіх жаночых сукенак і не ўяўлялі, як тыя выглядаюць. Да таго, яны лічылі, што забароненая рэч проста не можа быць навідавоку.

Я не магла застацца ў сваёй хаце, каб мяне не схапілі і ня кінулі ў турму. То, забраўшы сукню, як адзіную памятку па сваёй маці, я павандравала як найдалей. І, хоць была малая, ведала ўжо я, што мае бацькі парушылі зашмат законаў, каб спадзявацца літасці. Ты ж сама ведаеш, Арна, што ў нас забаронена мужчынам кахаць жанчын, прымаць іх у свой дом, а тым больш спаць у адным ложку. Што ўжо казаць, якім злачынствам з'яўляецца апрананьне сукні замест мяшка.

Не маю ўжо я сілы апавядаць пра ўласнае жыцьцё, пра тое, як я спаткала твайго бацьку, што з ім сталася, -- скажу толькі, што ніколі я не апранала той сукні і ніхто ня ведае пра яе існаваньне. Проста баялася за сваё і тваё жыцьцё. Казала мне мая маці,што сукні -- гэта крылы жанчыны. Але я думала,што таго, хто лётае, лягчэй падстрэліць, і ўсё сваё жыцьцё правяла, прыціскаючыся да зямлі, поўзаючы, а не лунаючы ў небе, хаця б нават толькі ў думках. Зрэшты, твой бацька ставіўся да мяне так, як іўсе астатнія мужчыны, -- то для каго і навошта мела я строіцца?

Аднак цяпер, калі падыходзіць да канца маё жыцьцё,я так шкадую, што ніколі ўжо не даведаюся, што значыць быць прыгожай і каханай. Можа да цябе, Арна, лёс будзе ласкавейшы -- вазьмі гэты ключык ад куфра, што стаіць на гарышчы, бо якраз там ляжыць сукня маёй маці, а твае бабулі. Паабяцай мне толькі, што не адчыніш гэтага куфэрка раней, чым табе споўніцца васемнаццаць гадоў, бо толькі тады ты будзеш дастаткова дарослай і разумнай, каб знайсці дарогу з гэтага праклятага краю ў той, адкуль родам твая бабуля. Але ні ў якім разе не апранай гэтай сукні да той пары, пакуль не перакрочыш межы нашага каралеўства, бо тут усюды, за кожным кустом, кожным дрэвам ці каменем можа хавацца шпік або стражнік. Не павінен ніхто тут бачыць цябе ўгэтым строі, бо сказаў каралю нейкі прарок, што канец ягонай улады надыйдзе тады, калі хоць адна жанчына здыме мяшок і апране прыгожую сукню.

А да васемнаццацігоддзя ты павінна асцярожна выпытваць ва ўсіх пра дарогу да каралеўства, у якім пануе прыгажосць і каханьне."

Гэта былі апошнія словы няшчаснай кабеты, і запэўніла яе дачка Арна, што выканае ўсё так, як было загадана.

Гэтак вось Арна засталася адна, і пачала распытваць усіх пра таямнічае каралеўства прыгажосці і каханьня. Аднак ніхто ні пра што падобнае не чуў, дый што маглі пра такія рэчы ведаць у гэтай краіне бедныя зацкаваныя кабеты, а з мужчынамі ўвогуле было забаронена размаўляць.

Пераконвалі Арну жанчыны, што такога каралеўства проста не можа быць, бо ў дзяржаве мусіць быць парадак, а які ж можа быць парадак без страху? А большасць увогуле не магла зразумець, пра што йдзе гаворка, бо не мела паняцьця ані пра каханьне, ані пра прыгажосць.

І ўрэшце наступіла доўгачаканае васемнаццацігоддзе, аднак Арна так нічога й не даведалася пра дарогу на радзіму сваёй бабулі. Затое яна ўжо мела права адамкнуць таямнічы куфар, і аднойчы позняй ноччу яна са сьвечкаю ў руках узбралася на гарышча і дастала сукню сваёй бабулі. Нічога падобнага яна дагэтуль не бачыла -- вішнёвы аксаміт ільсніўся ў бляску сьвечкі, перліны паблісквалі як зоркі, далікатныя карункі складваліся ў мудрагелістыя ўзоры. Арна нават не падазравала, што нехта здольны сшыць такі строй, а тым больш насіць яго на сабе.

Не магла паверыць, што такі цуд належыць цяпер ёй, што яна можа зрабіць з ім усё, што захоча. Прыгадала аднак, што паабяцала не апранаць сукню, пакуль знаходзіцца ў гэтым каралеўстве, -- але ж яна так і не даведалася, як трапіць туды, дзе дазволена апранацца ў такія строі. Азначала гэта, што не вядома калі і ці ўвогуле яна знойдзе тое каралеўства. То вырашыла хоць на хвілінку апрануць цудоўны строй. У хаціне не было аднак ніякага люстра, яны былі забаронены ў жытле кабет. Арна прыгадала, аднак, што паблізу яе халупы ёсць сажалка, у якой можна паглядзецца.

*Заканчэньне на 9-й бачыне.*

# ЗАБАРОНЕНАЯ СУКНЯ

*Заканчэньне з 8-й бачыны.*

Дрыжучы ад страху, палахліва азіраючыся, яна скінула ненавісны мяшок і апранула сукню. Тое, што яна ўбачыла ў воднай гладзі, зьнерухоміла яе, яна не магла паверыць, што гэта яна так выглядае. Забылася пра ўсё на сьвеце, як зачараваная глядзела на сваё адлюстраваньне, аж пакуль не падумала, што непадалёку ёсць возера, у якім вада чысцейшая, чым у сажалцы, і пабегла ў тым кірунку. Адчувала сябе сапраўды акрыленай, зразумела, што сапраўды сукні з'яўляюцца крыламі жанчыны. І так вось аж да самага ранку бегала Арна ад возера да возера, не могучы нацешыцца сваім шчасцем, -- ды кароткай была яе радасьць...З'явіліся з ранішняга туману, як здані, конныя каралеўскія стражнікі, схапілі гаротніцу і прывялі да караля.

Шчодра ўзнагародзіў сваіх стражнікаў кароль, бо ў ягоных руках урэшце апынулася тая жанчына, пра якую казаў прарок, і можна было зрабіць з ёю ўсё, што заўгодна. Кароль загадаў кінуць яе ў вязьніцу, а сам пайшоў на нараду, каб абмеркаваць кару, якая павінна быць настолькі жорсткай, каб такое злачынства больш не адважылася паўтарыць ніякая кабета.

І было вырашана заўтра ж сагнаць нібыта статак жывёлы ў адно месца ўсіх жанчын каралеўства, і на вачах усяго натоўпу з Арны мела быць садрана сукня і на яе зноў нацягнуты брудны мяшок. Пасля гэтага сукня мела быць спалена на вачах Арны, а потым і яна сама на вогнешчы. Паціраючы рукі ад радасьці, кароль загадаў адкрыць бочку найлепшага віна, і, адсьвяткаваўшы перамогу, заснуў, задаволена храпучы і сьціскаючы ў руцэ ключы ад дзвярэй лёху, у якім пакутавала Арна.

Мы не ўзгадвалі яшчэ, што кароль меў адзінага сына, якога звалі Арвіл. Ён быў выхаваны гэтаксама, як і ўсе астатнія хлопцы і быў упэўнены, што жанчыны -- такія ж жывёлы, як і ўся іншая скацінка, што жыве разам з імі ў хлявах. Але калі ён убачыў Арну, якую вялі праз замкавы дзядзінец, ўсё перавярнулася ў ягонай галаве. Ён усю ноч не мог зьмружыць вока, бо зразумеў -- усё, што яму казалі пра жанчын, было маною. Прынамсі ў адносінах да той дзяўчыны, якую ён убачыў праз вакно свайго пакою. Ад бацькі ён ведаў, што яе чакае і мароз прадзіраў яму скуру ад жаху. Не мог зразумець чаму гэтая дзяўчына ўвесь час стаіць перад ягонымі вачыма, чаму ён увесь час пра яе думае, чаму яму хочацца быць побач з ёй, магчыма, нават усё жыцьцё. Каралевіч таксама ня ведаў, што такое прыгажосць і каханьне. Але зразумеў, што абавязкова мусіць яе ратаваць, бо іначай яго жыцьцё страціць сэнс.

І выцягнуў Арвіл з рукі п'янага бацькі ключы, адамкнуў вязьніцу, вывеў ашаломленую Арну да замкавых варотаў, дзе ўжо прыгатаваў каня, не забыўшыся пра мяшок з золатам -- бо вырашыў уцячы са свайго каралеўства.

Не вядома, пра што яны гаварылі і ці размаўлялі ўвогуле, імкнучыся наперад пад зорным небам, -- але неўзабаве Арвіл і Арна ведалі пра каханьне значна болей, чым пару гадзін таму.

Немагчыма апісаць шаленства караля, калі ён даведаўся аб усім. Адразу ж была выслана пагоня, а паколькі каралевіч Арвіл быў малады і недасьведчаны, сьляды ягонага каня былі выкрыты імгненна. І, неўзабаве, дагналі стражнікі ўцекачоў у вузкай горнай цясніне, падстрэлілі каралевічу каня, і падумалі Арвіл і Арна -- так вось і скончылася іх шчасце, не пасьпеўшы пачацца...

І кінуліся яны ў апошні раз адно другому ў абдымкі, і закрычаў Арвіл на ўсю моц у бок стражнікаў, што набліжаліся, каб іх схапіць -- "Кахаю Арну, чуеце! Ка-ха-ю!" Аж рэха адгукнулася ў гарах -- "Ка-ха-а-а-ю! Ка-ха-а-а-ю!.."

І раптам абрынулася сьнежная лавіна з горных вяршыняў, хаваючы пад сабой і стражнікаў і іхніх коней. Нейкім цудам ацалелі Арна і Арвіл, бо здолелі ўскочыць на скалу. І цяпер яны былі сапраўды вольныя, нават мяшок з золатам быў цэлы. Ішлі цяпер Арна і Арвіл пехатою праз горы і даліны, харчуючыся ягадамі ды дзічкамі, п'ючы крынічную ваду і цешачыся сваім каханьнем.

Не ведалі, куды трэба ісьці -- аднак мелі шчасьце, бо дарога ў рэшце рэшт прывяла іх да вялікага горада, па вуліцах якога шпацыравала мноства мужчынаў і жанчын, і ніводная кабета не была апранута ў мяшок з дзіркамі для рук і шчылінай для вачэй, а ўсе мелі на сабе прыгожыя строі, і ўсе былі радасныя і шчаслівыя. І зразумела Арна, што гэта і ёсць тая краіна, адкуль паходзіла яе бабуля.

Хутка пазналі, што Арна і Арвіл -- іншаземцы, і прывіталі і прынялі іх, як найлепшых гасьцей. Падарылі ім новыя строі, бо сукня Арны патрапалася ў час падарожжа, дый мода цяпер была іншай.

Аднак захавала яе Арна як каштоўную памятку.

І так бы яны й жылі сабе ў шчасці і радасьці, толькі з часам усё болей іх засмучала думка пра тое, што на іх радзіме ніводная кабета нават не падазрае, што магла б быць прыгожай і шчаслівай.

І вырашылі, што за ўсё золата, якое Арвіл вынес з замку свайго бацькі, яны купяць як найбольш сукенак і патаемна раздадуць жанчынам у сваёй краіне. Аднак высьветлілася, што яны зусім не памятаюць, дзе яны той мяшок пакінулі падчас падарожжа - закханыя ня думаюць пра грошы. Давялося Арвілу сядаць на каня і вырушыць на пошукі свайго скарбу. Доўга шукаў,ці коратка -- але знайшоў. Палявыя мышы прагрызлі ў мяху дзюркі, ён парос імхом і травою, птушкі вілі гнёзды з выскубаных нітак, але ўсё золата было на месцы. Прырода абыякавая да грошай, яна цэніць іншыя вартасьці -- сонечнае цяпло, чыстае паветра, сьпевы птушак, булькатаньне ручая, -- і раздае ўсё гэта бясплатна.

За сукні аднак трэба было плаціць золатам, і цэлага мяшка не хапіла, каб купіць столькі сукняў, колькі было жанчын і дзяўчат у каралеўстве Арвіла і Арны. Але калі стала вядома, з якой мэтай купляецца гэтулькі строяў, усе жанчыны каралеўства, у якім панавалі прыгажосць і каханьне, прынеслі найлепшыя сукні ў падарунак.

Неўзабаве вырушыў у бок каралеўства прыгнечаных жанчын цэлы караван, нагружаны сукнямі і люстэркамі.

Няпроста было раздаць гэты скарб так, каб не даведаліся аб гэтым каралеўскія шпікі і стражнікі. Адна за другой апраналі кабеты і дзяўчаты цудоўныя строі, і адкрываліся вочы ў іх бацькоў, мужоў і братоў. І зразумелі яны, чаго былі пазбаўлены, і гнеў рос у іхніх сэрцах. Ніхто ўжо больш не ўтойваў, што мае такую прыгожую каханую, жонку або дачку. І вырушылі ўзброеныя мужчыны да замку жорсткага караля, каб раз назаўсёды вызваліць сваіх жанчын ад страху, брыдоты і прыніжэньня. А штандарам служыла сукня бабулі Арны, кіраваў жа войскам каралевіч Арвіл.

Але непрыступны быў замак, зацята бараніліся стражнікі. І невядома, як бы ўсё скончылася, калі б не адчыніў хтось уначы падземны ўваход, праз які паўстанцы ўварваліся ўзамак. А зрабіў гэта не хто іншы, як сама каралева, якая таксама больш не хацела насіць абрыдлы мяшок і жыць у стайні.

І быў у замку вялікі баль, і было там столькі прыгожых жанчын і паненак, колькі не мела нават каралеўства, з якога паходзіла бабуля Арны. Ва ўсякім разе, так казалі запрошаныя госці з таго каралеўства. Сама ж Арна стала новай каралевай, бо каралём, вядома, стаў Арвіл. І старая каралева засталася жыць у замкавым палацы.

І запанавалі ў той краіне прыгажосць і каханьне, а сукні сталі крыламі жанчын.

А былы ўладар са сваімі стражнікамі ўцёк кудысь далёка-далёка. Кажуць, што й цяпер ёсць недзе ў гарах такое каралеўства, дзе ўсе жанчыны красуюцца ў мяшках са шчылінаю для вачэй...



*Дарагія чытачы, ці спадабалася вам гэтая казка?*

*Ці падабаецца вам малюнак?*

*У кожным чалавеку мусіць быць гармонія паміж духоўнай і зьнешняй прыгажосьцю.*

*Напішыце нам, якія чалавечыя якасьці на вашу думку ўпрыгожваюць чалавека?*

**Пытаньне:** Дзеля чаго настаўніку музыкі патрэбныя драбіны?
**Адказ:** Каб дацягнуцца да высокіх нот.

**Пытаньне:** Якімі талеркамі карыстаюцца на Вэнэры?
**Адказ:** Лятаючымі талеркамі.

**Пытаньне:** Чаму хлопчык вучыўся ў самалёце?
**Адказ:** Хацеў мець вышэйшую адукацыю.

**Пытаньне:** Як настаўнік музыкі замкнуўся ў пакоі?
**Адказ:** Ключы былі ўнутры піяніна.




**Пытаньне:** Што ты сёньня вывучыў у школе?
**Адказ:** Недастаткова, давядзецца заўтра зноў ісьці.

**Пытаньне:** Што ў класе самае простае?
**Адказ:** Лінейка.

**Пытаньне:** Што сказаў аловак вастрылцы?
**Адказ:** Годзе хадзіць вакол ды каля.

**Вучань:** Як бы я хацеў нарадзіцца гадоў 1000 таму!
**Другі вучань:** Чаму?
**Вучань:** Уяві сабе, сколькі гісторыі мне бы не трэба было вучыць!

# Інфармацыйны дадатак да газэты “Беларус”

*Юрыдычныя парады:*

## Як сябе паводзіць у выпадку аварыі?

Шмат хто з нашых суайчыньнікаў, што прыехалі ў Новы Сьвет, вельмі цьмяна ўяўляе сабе, якія дакументы павінныя быць у кіроўцы, і як сябе паводзіць у выпадку дарожна-транспартнага здарэньня. А між тым, ад правільных паводзінаў у першыя хвіліны часьцяком залежыць тое, ці атрымаеце вы кампенсацыю ў час і цалкам.

У адрозьненьні ад Беларусі, дзе тэхнічны пашпарт аўтамабіля павінен увесь час знаходзіцца разам з кіроўцам, у Амэрыцы пасьведчаньне на права ўласнасьці (т.зв. “тайтл”) ня толькі ня трэба вазіць з сабой, але трэба трымаць у бясьпечным месцы, якім аўтамабіль не зьяўляецца. У машыне павінная захоўвацца толькі картка рэгістрацыі ці дакумэнт аб працягу рэгістрацыі машыны і страхавая картка (сам страхавы поліс таксама павінен захоўвацца ў бясьпечным месцы). Менавіта гэтыя два дакументы, а таксама правы кіроўцы вы павінныя прад’яўляць паліцыі.

У выпадку аварыі вам ня трэба высьвятляцца на месцы здарэньня зь іншымі ўдзельнікамі, хто правы, а хто вінаваты. Нашмат больш істотна перапісаць максімальна поўна іх дадзеныя – у першую чаргу, дадзеныя страхавога поліса (назва страхавой кампаніі, нумар поліса, VIN-нумар застрахаванага аўтамабіля) і правоў усіх кіроўцаў (імя, адрас месца жыхарства і нумар правоў). Калі такой магчымасьці няма (напрыклад, кіроўца імкнецца зьехаць), то абавязкова трэба перапісаць прынамсі нумар аўтамабіля. Вельмі добра, калі ўдасца зазьняць на фотаапарат месца здарэньня і зафіксаваць пашкоджаньні як вашага аўтамабіля, так і іншых удзельнікаў здарэньня. У тым ліку трэба пастарацца зафіксаваць на фотакамэру траўмы ўдзельнікаў ДТЗ.

Варта дачакацца паліцыю. Афіцэр у гэтым выпадку складзе пратакол ДТЗ. Нават калі паліцэйскі напісаў у пратаколе, што вы вінаватыя, гэта яшчэ не канчатковы прысуд. Вам варта настаяць на тым, каб вашая версія здарэньня была адлюстраваная ў пратаколе – гэта дапаможа вашаму адвакату дабіцца справядлівасьці.

Запішыце таксама дадзеныя іншых сьведкаў ДТЗ і настойвайце, каб іх запісаў у пратакол паліцэйскі.

На працягу 10 дзён з дня ДТЗ вы абавязаныя паведаміць уладам пра факт здарэньня. Прычым нават у тым выпадку, калі паліцыя складала пратакол – гэта ня лічыцца аўтаматычным паведамленьнем. Дзеля гэта выкарыстоўваецца сьпецыяльная форма, якую вам дапамогуць запоўніць у адвакацкім офісе.

Часам удзельнікі ДТЗ баяцца выклікаць хуткую дапамогу, нават калі траўмы сур’ёзныя, ці не зьвяртаюцца за медычнай дапамогай пасьля, бо баяцца медычных рахункаў ці ня маюць медычнай страхоўкі. Гэта няправільна – законы штату Нью-Ёрк абавязваюць вашую аўтамабільную страхоўку аплаціць вашае лячэньне на суму да 50 тысячаў даляраў незалежна ад вашай віноўнасьці ў ДТЗ. Пры гэтым доктар нават не абавязаны пытацца згоды страхавой кампаніі на метады лячэньня (у адрозьненьні ад большасьці медычных страховак). Таму ў ідэале вы павінныя зьехаць зь месца ДТЗ на карэце хуткай дапамогі, каб у шпіталі вас агледзеў доктар на прадмет магчымых траўмаў. Факт таго, што вы зьехалі на хуткай дапамозе, у будучым дапаможа вашаму адвакату атрымаць для вас максімальную кампенсацыю.

Страхавая кампанія рэзэрвуе сабе права кантраляваць ход вашага лячэньня – яны могуць папрасіць вас распавесьці, якім менавіта чынам вас лячылі, і адправіць вас на незалежны медычны агляд. Гэта робіцца не дзеля абмежаваньня вашага права на лячэньне, а дзеля таго, каб пераканацца, што ўсё, за што было заплочана дактарам, вы атрымалі.

Як у любой справе, пры ўрэгуляваньні маёмасных адносінаў навокал ДТЗ варта напалягаць на дапамогу прафесіяналаў. Традыцыйна адвакат забірае сабе 1/3 атрыманых грошаў. Але калі адмовіцца ад яго паслугаў, вы можаце нашмат больш згубіць: страхавая кампанія або адмовіцца вам увогуле плаціць, або не даплаціць у параўнаньні з тым, што мог бы для вас атрымаць адвакат. Таму наступны крок – зьвярніцеся ў адвакацкі офіс, што прафесійна займаецца аўтааварыямі. Напрыклад, у офіс Тані Гендэльман (ліцэнзіі штатаў Нью-Ёрк, Нью-Джэрзі і Масачусэтс). У любым выпадку вы нічым не рызыкуеце – па стандартах працы адвакатаў, у справах пра ДТЗ, калі вы не атрымалі кампенсацыю, то вы нічога ня плаціце адвакату.

Наступны крок пасьля размовы з адвакатам – калі вы яшчэ не зьвярнуліся да ўрачоў, то прайдзіце медычны агляд. Часта пасьля аварыяў траўмы праяўляюць сябе празь нейкі час пасьля здарэньня – часам нават праз некалькі тыдняў. Няма ніякай прычыны, чаму вы не павінныя пераканацца ў тым, што шкода вашаму здароўю не нанесеная, і тым больш няма прычынаў адказвацца ад лячэньня, якое, як было сказана вышэй, усё адно пакрываецца аўтамабільнай страхоўкай.

Сярод іншых вашых правоў, на якія вы маеце права, але пра што часьцяком ня ведаюць кліенты, варта пералічыць наступнае.

Калі ў выпадку ДТЗ вы прапусьцілі працоўныя дні, то яны будуць вам аплочаныя страхоўкай.

Калі вы невінаватыя ў ДТЗ, або ваш поліс пакрывае таксама вашую віну (т.зв. “full coverage policy”), то, у большасьці выпадкаў, па-першае, вашая машына будзе перавезеная ў рамонтную майстэрню бясплатна, а па-другое, на час рамонту страхавая кампанія аплаціць вам арэнду машыны такога самага класу, як вашая, або лепш. Зазвычай у Нью-Ёрку аплочваецца да 5 дзён арэнды. Вы самі можаце абраць рамонтную майстэрню, дзе будзеце рамантаваць сваю машыну. Страхавая кампанія выпіша чэк на імя ўладальніка страхавога поліса на суму, якая павінная пакрываць усе затраты на рамонт. Калі гэтая сума меньш, чым просіць аўтамайстэрня, то варта патаргавацца або запрапанаваць аўтамайстру, каб ён патлумачыў страхавой кампаніі, чаму рамонт каштуе даражэй. Калі ж чэк будзе на большую суму, чым кошт рамонту, то вы можаце пакінуць розьніцу сабе.

Кампенсацыя за аўтааварыю ў Нью-Ёрку складаецца з трох частак: медычнае лячэньне, маёмасная шкода і шкода здароўю. Апошняя выплочваецца пасьля заканчэньня вашага лячэньня і грунтуецца на цяжкасьці атрыманых вамі траўмаў і працягласьці лячэньня. Не забывайцеся пра свае правы і атрымоўвайце поўную кампенсацыю.

Калі вам спатрэбіцца прафесійная дапамога адваката, то тэлефануйце ў любы час дня і ночы па нумары: (347) 616-1414. Мы гаворым па-беларуску.

*Юрась Зянковіч*
*матэрыял падрыхтаваны ў супрацоўніцтве з адвакатам Таняй Гендэльман*

## Медычная рэформа ў Амэрыцы

***Шмат спрэчак, непаразуменьняў і пытаньняў выклікала ў ЗША рэформа аховы здароўя, якая была асноўным пунктам выбарнай праграмы прэзыдэнта Барака Абамы і з вялікімі цяжкасьцямі нарэшце была прынятая. Але і да сёньня шмат каму са звычайных амэрыканцаў не ўдаецца спасьцігнуць сэнс зьменаў і іх наступствы для кожнага чалавека. Каб дапамагчы нашым чытачам арыентавацца ў асноўных пунктах гэтай рэформы, прапануем вытрымкі з інфармацыі, якая была апублікаваная ў часапісе “Адвакат” (№ 5 2010)***.

Па-першае, аўтарка артыкулу адвакатка Ганна Латкоўская, папярэджвае пенсіянераў, што рэформа не скасуе, а наадварот пашырыць рамкі вядомых праграмаў – Медыкера і Медыкэйта. Больш таго, з 2014 году Медыкэйтам могуць пачаць карыстацца людзі маладзейшыя за 65 гадоў – пры ўмове, што іх прыбыткак не перавышае 133% фэдэральнага ўзроўню беднасьці.

Астатнія жыхары, якія не маюць страхоўкі, могуць яе набыць на так званых страхавых біржах. Біржы з 2014 году будуць прапаноўваць чатыры асноўныя катэгорыі страхавых плянаў, а таксама і так званы Catastrophic plan для людзей да 30 гадоў – Bronze, Silver, Gold and Platinum Plans.

Bronze plan будзе аплочваць 60% ад кошту медычных паслуг, з максімальным лімітам на out-of-pocket expenses, роўным максімальнай колькасьці грошай, якія мы можам штогод адкладаць у Health Savings Accounts (HSA Limit - $ 5.950 на аднаго чалавека і $ 11.900 на сям’ю ў 2010 годзе). Адпаведна, пры такім жа максімальным узроўні даплаты (out-of-pocket expenses) Silver plan аплаціць 70% ад кошту медычных паслуг, Gold plan - 80%, Platinum plan - 90%.

Пенсіянеры, якія карыстаюцца Медыкерам, пачнуць атрымліваць $ 250 для пакрыцьця расходаў на лекі, якія не дапакрываюцца Медікерам у выпадку перавышэньня ўстаноўленага ліміту (doughnut hole).

Страхавыя кампаніі не змогуць больш адмаўляць дзецям у страхаваньні з-за наяўнасьці ў іх захворваньня (pre-existing condition), таксама дарослыя пры наяўнасьці pre-existing condition атрымаюць магчымасьць мець ільготныя страхоўкі (high risk insurance pools) да таго часу, пакуль рэформа поўнасьцю не ўступіць у сілу і не запрацуюць страхавыя біржы.

Страхавыя кампаніі не змогуць таксама ўстанаўліваць ліміт на колькасьць грошай, якая можа быць затрачана на лячэньне пацыента цягам усяго ягонага жыцьця. Новыя страхоўкі ўжо цяпер абавязаны прадстаўляць людзям дарэмныя прафілактычныя працэдуры , а да 2018 году гэта стане абавязковым законам для ўсіх страховак. Да прафілактычных працэдураў належаць – замер крывянога ціску, маммаграма, калонаскапія, абсьледаваньне на наяўнасьць ракавага захворваньня, абсьледаваньне слуху і зроку ў дзяцей, імунізацыя супроць грыпу, гепатыту і інш.

З мінулага году працадаўцы, на якіх працуе менш 50 чалавек, атрымліваюць падатковыя ільготы ў аб’ёме 35% ад памера іх страхавых узносаў для пакупкі медстраховак для сваіх працаўнікоў, да 2014 году гэтыя ільготы дасягнуць 50%. Кампаніі, ў якіх працуе больш 50 чалавек, з 2014 году будуць абавязаныя купляць страхоўкі для ўсіх сваіх працаўнікоў. Тыя працаўнікі, якія цяпер маюць страхоўку ад сваёй фірмы, у выпадку, калі страхавы ўзнос перавышае 9.5% ад іх даходу, змогуць адмовіцца ад такой страхоўкі і купіць сабе іншую на біржы.

Пачынаючы з 2013 году максімальная колькасьць адлікаў у Flexible Spending Accounts за год не зможа перавышаць $ 2.500 (гэта сума будзе індэксавацца з улікам інфляцыі кожны год). Будзе ўведзены падатак у памеры 2.9 % на медычныя прылады, Але, некаторыя самыя распаўсюджаныя і шырока ўжываемыя, такіе як акуляры, слухавыя апараты і падобныя, не будуць абкладацца гэтым падаткам. Павялічыцца памер стандартнага медычнага спісаньня з падатку (Medikal Deduction) – з 7.5% да 10% ад памера агульнага прыбытку чалавека.

З 2013 году амэрыканцы, чый прыбытак складае ці перавышае $ 250.000 (індывідуальны ці сямейны) будуць плаціць павышаны падатак у фонд Медыкэра – 2.35% замест 1.45%, а таксама падатак на інвестыцыі такіх грамадзянаў складзе 3.8%.

У 2014 годзе ўсе грамадзяне ЗША павінны будуць мець медстрахоўку, пры яе адсутнасьці давядзецца плаціць штраф у памеры $ 95 у 2014 годзе, $ 325 у 2015 і $ 695 у 2016 годзе. Максімальны памер штрафу не будзе перавышаць 2.5% ад агульнага даходу чалавека. На сям’ю максімальны штраф не можа быць больш як $ 2.250. Памер штрафу на дзіця будзе складаць палову штрафу для дарослага.

Да пададзенай інфармацыі дадамо, што некаторыя пункты рэформы ўжо ўступілі ў дзеяньне. Ад 23 верасьня 2010 году дзейнічае патрабаваньне аб тым, што страхавыя кампаніі, якія даюць медычныя бенефіты працуючым сем'ям, павінны забясьпечваць медычнымі паслугамі дзяцей працаўнікоў да 26 гадоў (young adults). Ад гэтага часу таксама дзейнічае новы закон, які абараняе людзей ад свавольства страхавых кампаній, калі яны неабгрунтавана адмянялі страхавы поліс па надуманных прычынах. Гэта часта рабілася ў тых выпадках, калі медычныя паслугі патрабавалі вялікіх затратаў. Звычайна кампанія абвінавачвала свайго кліента ў нейкіх дробных памылках, што ён быццам бы ў сваёй заяве указаў не тую інфармацыю, або дату, ці не паведаміў пра нейкі візіт да доктара. Новы закон цяпер устанаўлівае дакладныя падставы, па якіх можа быць ануляваны поліс:

- калі кліент перастаў выплочваць страхавыя складкі
- калі кампанія скончыла сваю дзейнасьць у гэтым рэгіёне
- калі кліент пераехаў у іншую мясцовасьць, на якую не распаўсюджваецца дзейнасьць гэтай кампаніі

Кампанія мае права адмяніць поліс і ў тым выпадку, калі кліент ў сваёй заяве сапраўды дапусьціў намеранае скажэньне інфармацыі, ці не паведаміў важную інфармацыю для справы атрыманьня страхоўкі. У гэтым выпадку кампанія абавязана паведаміць кліента за 30 дзён да адмены полісу.

Больш падрабязную інфармацыю пра медычнае абслугоўваньне можна знайсьці на сайце Міністэрства аховы здароўя – www.healthcare.gov

# Аўтаматычныя плацяжы. Плюсы і мінусы

На лаўцы ў садку ў самую нью-ёркскую сьпёку сядзяць некалькі пенсіянераў і абмяркоўваюць глабальныя праблемы, як водзіцца ў асяродку эмігрантаў з былога СССР, дзе палітыка займала першае месца перад усімі жыццёвымі патрэбамі. Сярод іх вельмі паважаны ў сваім асяродку маладжавы на выгляд пенсіянер Навум. Ён прыехаў у Амэрыку 25 гадоў таму, працаваў усе гады "на чэк" , атрымлівае заслужаную, хаця і невялікую пенсію. Ва ўсім, што тычыцца жыцця ў Амэрыцы, ягонае меркаваньне лічыцца найбольш аўтарытэтным. Другі ў гэтай сяброўскай кампаніі – таксама пенсіянер Барыс вядомы тым, што ў ягонай сям'і ўсім кіруе жонка і яго гэта задавальняе, ніякай табе адказнасьці. Калі жонка нешта яму даручае, то ён адразу ж сьпяшаецца ўсё дакладна выканаць. Гэтым разам ён быў нейкі ўстрывожаны. Яшчэ адзін ягоны сябра Міша запытаўся, што сталася? Барыс узрушана патлумачыў: "Ды вось ужо трэйці дзень забываюся пайсьці ў банк. Жонка загадала замовіць пачку чэкаў, бо ўсе скончыліся, а ёй трэба плаціць за рэнт і за тэлебачаньне". "І шмат чэкаў яна выпісвае за месяц?" - запытаўся Міша. "Недзе атрымліваецца 10-12 чэкаў за месяц. А ў вас, што, не так" – у сваю чаргу запытаўся Барыс. "Ды я ўвогуле не ведаю, як той чэк выпісваць. Я бяру свой SSI раз у месяц з банку, прыношу сыну і ён выпісвае ўсё, што трэба. У іх , маладых, нашмат больш плацяжоў трэба рабіць штомесячна, так што аплачвае і свае і мае білы заадно». "А ў цябе колькі чэкаў у месяц выходзіць?" – зьвярнуліся сябры да аўтарытэтнага Навума. "У мяне няшмат, калі прыходзіць пенсія аўтаматычна на мой рахунак, тады аўтаматычна і здымаецца плата за рэнт і камунальныя паслугі, мне не трэба на гэта чэкі выпісваць" – адказаў Навум. Астатнія засумняваліся, ці гэта так бясьпечна, калі ў твой рахунак нехта залазіць. І з гэткім пытаньнем сябры прыйшлі да мяне ў наш банк "Асторыя". Што мне ім было адказаць? Добра гэта ці дрэнна? Каму гэта добра, а каму дрэнна? Паразважаем на гэтую тэму.

Калі вы адчыняеце рахунак у банку, вам прапануюць аформіць так званы direct deposit, гэта азначае, што вашыя паступленьні (зарплата, пенсія, дывідэнты, social security ці SSI) будуць паступаць на рахунак аўтаматычна. Гэта зручна для ўсіх. Вам не трэба чакаць чэк па пошце, хадзіць ў банк і здаваць гэты чэк, не трэба чакаць, калі ён абналічыцца. Людзі прыходзяць спакойна кожны раз напачатку месяца за сваімі грашыма. Кампаніі, якія пасылаюць гэтыя грошы таксама ашчаджаюць на блянках чэкаў і паштовых выдатках.

Гэта таксама зручна і для банкаў. Аўтаматычныя аперацыі абыходзяцца таньней, зьмяньшаецца колькасьць дакумэнтаў, скарачаюцца чэргі ў банках, зьмяншаецца загрузка на касіраў і як вынік імі робіцца менш памылак. Да таго ж банк як бы "прывязвае" кліента да сябе. Банку гэта выгадна і таму шмат якія банкі стараюцца зацікавіць сваіх кліентаў – даюць ім падарункі – бясплатныя блянкі чэкаў ці проста грашовыя сумы. Значыць, уісм добра!

Акрамя паступленьняў ёсьць яшчэ і плацяжы, якія банк можа выконваць аўтаматычна па вашаму жаданьню. І гэта таксама вельмі зручна, вы ашчаджаеце час і грошы. У аўтаматычных плацяжах зацікаўленыя не банкі, а тыя арганізацыі, якім вы плаціце. Вельмі важна яшчэ і тое, што плацяжы будуць рабіцца рэгулярна і своечасова і вам не давядзецца плаціць штрафы за спазьненьне. Усё выглядае вельмі добра.

Але, як вядома, не бывае плюсаў без мінусаў. Разледзім цяпер мінусы. Напрыклад, вы аўтаматычна плаціце за інтэрнэт, ваш гадавы кантракт скончыўся і вы не хочаце яго працягваць. У гэтым выпадку вы справядліва мяркуеце, што плацяжы павінны прыпыніцца. Але, не, акуратна і рэгулярна яны працягваюць адлічвацца з вашага рахунку.

Ці, напрыклад, такі выпадак. Вы спакусіліся на нейкую рэкляму ў каталёгу ці на інтэрнэце, заказалі нейкую рэч і ўказалі нумар рахунка для аплаты. Праз тыдзень вам даставілі замоўленую рэч і з вашага рахунка быў аплочаны яе кошт. Здаецца, што апэрацыя закончаная. Не, праз некаторы час вы атрымліваеце ўжо нейкую іншую рэч ад гэтай жа кампаніі і за яе ізноў з вашага рахунку здымаецца адпаведная яе кошту сума. Рэч гэтая вам не патрэбна, але вы набылі яе міжволі, бо не зьвярнулі ўвагу, што ў дамове з кампаніяй унізе дробнымі літарамі было напісана, што пакупкі ў гэтай фірме будуць рабіцца вамі пастаянна і, зразумела, пастаянна будуць аўтаматычна адлічацца і плацяжы за іх. Пакуль вы анулюеце гэты кантракт, з вашага рахунку ўжо зьнікне пэўная сума і вы пасьпееце атрымаць яшчэ некалькі непатрэбных вам пакупак.

Здараюцца і звычайныя памылкі: не той нумар рахунку, не тая сума, выпадкова зьнялі плату два разы, памылка ў даце – грошы былі пераведзены ранней ці пазьней патрэбнага тэрміну. І, нарэшце, "хакеры" могуць проста ўкрасьці вашыя грошы.

Хто вінаваты і што рабіць, каб гэткіх "мінусаў" было як мага меней?

Вінаватыя альбо вы самі, альбо кампанія, якая выдзірае з вас грошы. Бывае, але вельмі рэдка, калі вінаваты банк (памылка клерка).

Што рабіць:

Вядзіце улік! Не лянуйцеся, запісвайце ўсе аперацыі, якія вы робіце з чэкавым рахункам. Увечары выньце з кашалька ўсе расьпіскі з тых крамаў, у якіх вы купляці ў гэты дзень, запішыце іх у чэкавую кніжку – дату, што куплена, дзе і кошт. Выпісалі чэк – запісалі. Ведаеце, што кожнага першага чысла месяца аўтаматычна бяруць аплату за рэнт – запішыце і г. д.. І абавязкова кантралюйце рахунак:

1. Адзначце ў календары, у якія дні павінны праходзіць дазволеныя вамі плацяжы і ўважліва сачыце за рухам грошай на рахунку. Напрыклад, VERIZON ці CABLEVISION прысылаюць вам рахунак за два тыдні да таго часу, калі будуць зьнятыя грошы.
2. Пасьля атрыманьня банкаўскай справаздачы (statement) уважліва прааналізуйце ўсе аперацыі і параўнайце іх з вашымі запісамі. Лепш такі кантроль рабіць раз у тыдзень. Зараз шмат якія банкі маюць бясплатны тэлефон, па якому можна пазваніць у любы час і даведацца не толькі пра свой баланс, але і пра ўсе аперацыі, якія зробленыя за апошні тыдзень. Самыя апошнія тэхналёгіі дазваляюць вам па інтэрнэту пастаянна адсочваць інфармацыю пра стан вашага рахунку.
3. Калі вы хочаце адмяніць нейкі платны сэрвіс, зрабіце гэта пісьмова, ліст адпраўце з уведамленьнем. Праз некалькі дзён пазваніце і запытайцеся ў супервайзэра ці атрымалі ваш ліст, запішыце дату і час званка і ягонае прозьвішча.
4. Калі вы заўважылі нейкі недахоп, адразу пачынайце дзейнічаць. Не спадзявайцеся, што праз месяц кампанія, ад сэрвісу якой вы адмовіліся, перастане сама здымаць з вас грошы. Пазваніце ў кампанію, пагаварыце з супервайзерам, запішыце час размовы і ягонае імя, папрасіце прыслаць вам пісьмовае паведамленьне ад кампаніі, што яны спыняюць здымаць грошы з вашага рахунку.

Пагаварыце з прадстаўніком вашага банку, папрасіце параду. У розных банках па рознаму вырашаюць такія праблемы. Магчыма, вам прапануюць напісаць заяву і возьмуць з прыпыненьне плацяжа 20-30 даляраў, а магчыма, прапануюць зачыніць гэты рахунак і адчыніць новы, што з'яўляецца крайняй мераю.

Цяпер, узважыўшы ўсе плюсы і мінусы, вырашайце самі – мець ці не мець аўтаматычныя плацяжы.

Вы хочаце ведаць, як вырашылі згаданыя вышэй сябры-пенсіянеры? Сваё рашэньне яны не засакрэцілі і я вам яго падаю.

Яны вырашылі, што атрымліваць грошы на рахунак аўтаматычна вельмі зручна і прыемна. А вось аддаваць грошы вырашылі толькі надзейным кампаніям у сфэры камунальных паслуг – аплата за электрыку, газ і тэлебачаньне. Магчыма, некаму з вас падыйдзе менавіта такі варыянт.

Калі ўзьнікнуць пытаньні па банкаўскай сістэме, задавайце іх ў пісьмовым выглядзе ў рэдакцыю газэты ці непасрэдна мне на адрас:

**ANNA NEMEROVSKY**
**P.O. BOX 35-1009**
**Brooklyn NY 11235**

## Медычная дапамога для малазабясьпечаных:

Teaching hospitals : www.aamc.org/uninsured/northeast.htm
www.aamc.org/uninsured /western.htm
www.aamc.org/uninsured /southem.htm
www.aamc.org/uninsured /midwest.htm

Гэта шпіталі, дзе практыкуюць студэнты – медыкі, яны абслугоўваюць малазабясьпечаных людзей. Шмат людзей карыстаюцца іх паслугамі.

У выпадку, калі неабходна хуткая дапамога (Emergency room), варта напачатку ўзважыць, што менавіта патрэбна. Калі гэта невялікая траўма, то мэтазгодна зьвярнуцца ў наступныя цэнтры:

Urgent care centres : www.itriagehealth.com

Гэта медычныя пункты, якія аказваюць дапамогу пры лёгкіх траўмах ці захворваньнях - вывіхі, лёгкія пераломы і траўмы, лёгкія апёкі і г.д. Абыходзяцца іх паслугі значна таньней чым у Emergency.

## Бясплатная юрыдычная дапамога

Шмат каму з нашых чытачоў, напэўна, даводзілася ў розных жыццёвых сытуацыях зьвяртацца па юрыдычную дапамогу да адвакатаў і вам вядома, як дорага гэта каштуе. Часам чалавек патрабуе неадкладную дапамогу, але не мае сродкаў аплаціць яе . Дзеля такіх выпадкаў існуюць арганізацыі, якія бясплатна аказваюць юрыдычныя паслугі малазабясьпечаным жыхарам ЗША. Падаем тут адрасы такіх арганізацый для тых, хто жыве ў Нью-Ёрку:

**The Legal Aid Society**
11 Park Place or 230 East 106 Str.
New York, NY
Tel. 212 722 2000

**Legal Services for New York City**
350 Broadway ,
New York, 10029,
Tel. 212 431 7200

Ганна Неміроўская



## Для тых, каго цікавіць жыльлёвае пытаньне

У Нью-Ёрку існуе практыка засяленьня жыхароў у кватэры з адносна невялікай аплатаю, разьлічаныя для людзей з сярэднім даходам, праз лятарэі.

Інфармацыю пра такія лятарэі можна атрымаць ў наступных ведамствах:

- Department of Housung Preservation and Development – www.nyc.gov/hpd
- New York City Housing Development Corporation – www.nychdc.com
- State of New York Mortgage Agency – www.nyhomes.org

Appiication на атрыманьне дзяржаўнай кватэры можна атрымаць:

- Brooklyn Applications Office –
350 Livingston Str. 2 floor, phone -718 250 59 00
- Manchattan Applications Office
55 West 125 Str., 7 floor, phone – 212 828 7100
- Gueens Applications Office
59-17 Jackson Boulevard, 2 floor,
- Staten Icland Applications Office
120 Stuyvesant Place, 2 floor, phone – 718 448 7326

## Продаж хатняй ежы

Гэтую інфармацыю падаем для тых, хто шукае магчымасьцяў для заробку, або хоча спажыць тое, што зрабілі іншыя.

У Амэрыцы існуе адмысловы сайт BookOfCooks, які прапануе паварам - аматарам выстаўляць блюды ўласнага вырабу на продаж, а тым, хто хоча купіць гэтыя вырабы стаць кліентамі хатніх кухняў.

Каб знайсьці таго, хто прапаноўвае хатнюю ежу, дастаткова глянуць на мапу ў інтэрактыўным рэжыме на Google Maps, дзе паказваюцца бліжэйшыя да вас прапановы. Можна задаць і не геаграфічныя параметры пошуку, а, напрыклад, пошук дыетычнай ці нейкай нацыянальнай ежы.

За замоўленаю ежаю можна заехаць самому, ці скарыстаць паслугі нейкай кампаніі.

Карыстаньне сайтам бясплатнае.

## Сьв. памяці Тацьцяны Шальк

**01.12.1924 – 20.01.2011**

У горадзе Манчэстары, Ангельшчына, памерла на 87 годзе жыцьця сп. Тацьцянв Шальк, дзявочае прозьвішчы Швэдзюк. Родам яна была з вёскі Патапавічы Янаўскага (Іванаўскага) раёна.

10.02.1940 савецкія ўлады арыштавалі ўсю сям'ю Швэдзюкоў, у тым ліку Тацьцяну, і вывезлі на катаргу ў Архангельскую вобласьць, Плесецкі раён. Тацьяца была яшчэ непаўналетняя, але яе прымусілі цяжка працаваць на нарыхтоўцы лесу, дзе рэзалі драўніну і потым звозілі да чыгункі. На шчасьце гэта не было так доўга.

Пасьля нападу Нямеччыны на СССР у наступным 1941 годзе ўся сям'я Швэдзюкоў, як былыя польскія грамадзяне з Заходняй Беларусі, дастала амністыю і ў 1942 годзе выехала на поўдзень у Сярэднюю Азію. У красавіку 1942 года яны былі ўжо ў Іране.

З Ірану Тацьцяна разам з маці і дзьвума сёстрамі і бабуляю выехалі ў Танганьіку (цяпер Танзанія), там яны знаходзіліся да 1948 году. У лягеры Тэнгэру каля гарадка Аруша, была праваслаўная царква, дзе Тацьцяна сьпявала ў хоры. Пасьля вайны ў 1948 годзе яны выехалі ў Ангельшчыну. Тацьцяна напачатку працавала ва Уэльсе, а потым пераехала ў Манчэстэр.

Пахаваная Тацьцяна Шальк на могільніку ў Манчэстэры, дзе ўжо ляжаць яе бацькі, муж і сын.

Нябожчыца пакінула ў глыбокім смутку дзьве дачкі, сямёра ўнукаў, брата, сястру і іншых родных.

Вечная памяць табе, дарагая Тацьцяна!

*Міхась Швэдзюк*

## Паважаныя сябры!

93-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі будуць праводзіцца ў розных гарадох ЗША у сакавіку. Сёлета ўсе Аддзелы і Гурткі БАЗА ладзяць свае сьвяткаваньні, або далучаюцца да іншых.

Бруклінскі аддзел БАЗА ладзіць гэтае сьвяткаваньне ў нядзелю 27 сакавіка ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв.Кірылы Тураўскага на Атлантык Авеню 401 у Брукліне.

У грамадзкім цэнтры "Полацак" у штатце Агайо сьвяткаваньне таксама адбудзецца 27 сакавіка. Арганізатарамі зьяўляюцца Цэнтр "Полацак" і Аддзел БАЗА у Агайо.

Калі ласка, дайце знаць, калі і дзе Угодкі будуць адзначацца ў вашым асяродку.

*Ад Галоўнай управы*
*Вячка Станкевіч*
*Старшыня*




### На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| 1. В. Аўдзеева | $ 50 |
| 2. М. і Т.Белямук | $ 50 |
| 3. В. Дворнік | $ 50 |
| 4. Е. Дубяга | $ 50 |
| 5. Е. і С.Кажан | $100 |
| 6. К. Нагорная | $ 50 |
| 7. М. Нагорный | $ 50 |
| 8. Л.і Л.Сурак | $ 50 |
| 9. І. Фанская | $ 50 |
| 10. У. Цяліца | $ 20 |
| 11. А. Якушава | $ 50 |
| 12. А. Бандаровіч | $ 100 *(вялікі дзякуй, што шукаеце кантактаў з сурозічамі)* |
| 13. М. Калядка | $50 |
| 14. Я. Запруднік | $ 100 *(з іх $ 50 заместа вянка на магілу Паўлы Урбана)* |
| 15. О. Ярахович | $ 55 |
| 16. Л.і С. Швабовіч | $ 50 |
| 17. С. Будкевіч | $ 60 |

Асаблівую падзяку выказваем аўстралійскім беларусам, якія даслалі нам чэк на суму – 2.024.77, гэткую частку ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Міхась Лужынскі | $ 1057 |
| Оля Нарушэвіч | $ 1000 |
| Ліза Грыцай | $ 60 |
| Эва Парэцкая | $ 60 |

***Усім ахвярадаўцам - ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ!***

Рэдакцыя газэты выказвае шчырае спачуваньне вядомаму беларускаму дзеячу ў Францыі **сп. Лявону Шыманцу** з нагоды заўчаснай сьмерці ягонай жонкі **Франсуаз**. Спачуваем таксама ягонай дачцы **Вірджыніі Шыманец** у сувязі са стратаю маці.

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**

Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)

Андрусь Падлескі – адказны за кампутарную вёрстку

Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)

Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com

Валеры Дворнік - адказны за друк

Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**

Паштовы адрас:

***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*